ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431 Tel.: (212) 380-2036

Год XXIX № 282 New York, October-Кастрычнік — 1980 № 282

## ЧАЦЬВЕРТАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

Фэдэральная Рада Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі падае да агульнага ведама, што 4-ая Сустрэча Беларусаў Аўстраліі адбудзецца ад 27 да 29 сьнежня сёлета ў Мэльбурне з наступнай праграмай:

**Сыбота 27. 12. 80:** 9-12 гадз. — Закватараваньне. Грамадзкія нарады.
12-14 гадз. — Адчыненьне Сустрэчы й кароткая мастацкая частка.
14-20 гадз. — Сяброўская бяседа й пачастунак.
**Нядзеля 28. 12. 80:** 10:30 гадз.Божая Служба ў мясцовай БАПЦаркве.
13-19 гадз. — Рэфэрат. Маёўка.
**Панядзелак 29. 12. 80:** 10:30 гадз. — Рэфэрат прысьвечаны 450-ым угодкам Літоўскага Статуту першага выданьня.
12-14 гадз. — Канцэрт удзельнікаў Сустрэчы.
14-20 гадз. — Супольны пачастунак. Закрыцьцё.

Уся Сустрэча прысьвечаецца: 1. 450-ым угодкам Статуту ВКЛ. 2. 30-ым угодкам Беларускай эміграцыі ў Аўстраліі.

Д-р Язэп Малецкі
Старшыня Вык. Камітэту ФРБАА

М. Лужынскі
Сакратар

# ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎН. АМЭРЫКІ

## АГУЛЬНЫЯ ЎРАЖАНЬНІ

Зьяжджацца на Сустрэчу пачалі рана: у пятніцу вечарам 29 жніўня прыехала ўжо колькі групкаў зь Нью Ёрку, Нью Джэрзі, Мэрыленду,Каліфорніі, Чыкага ды з Канады. Разьмясьціліся дзе-хто — у матэлях, у знаёмых і родзічаў, у Полацку. Усё ажыло, аднак, у сыботу рана, калі прыехаў аўтабус зь ньюёркаўскімі й ньюджэрзійскімі ўдзельнікамі, ажыў і матэль, дзе затрымалася бальшыня, ажыў і Полацак. Людзі, хоць і стомленыя, але пры ўзьнятым настроі, чакаюць на пакоі, сустракаюцца, вітаюцца, дзеляцца ўражаньнямі. Усюды беларуская гаворка. Нарэшце ўсе расквартараваліся

На селішчы Полацак кліўлендзкія жанчыны падрыхтавалі сьнеданьне. Хутка й афіцыйнае адчыненьне Сустрэчы. Пазьней розныя нарады, зборкі — Вэтэранаў, Моладзі. На двары, пад дрэвамі сп. М. Шуст расклаў свае прыгожыя вырабы із саломкі. Гэта было самае першае, што мне асабліва кінулася ў вочы й прыцягнула ўвагу.

Па абедзе Канфэрэнцыя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, прысьвечаная 450-годзьдзю Статуту Вялікага Княства Літоўскага. Заняткаў хапае для ўсіх. І для тых, што хочуць проста адпачыць, пагаварыць, спаткацца із старымі знаёмымі, навязаць новыя знаёмствы. Зьехаліся-ж з розных куткоў Амэрыкі й Канады. Былі навет госьці з-за акіяну, з Ангельшчыны ды з Польшчы.

Падвечар у Полацку Д-р Ян Пятроўскі прачытаў рэфэрат, прысьвечаны 100-годзьдзю паэты Гальляша Леўчыка.

Вечарам урачысты баль у Полацку. Людзі трохі адпачылі, прыхарашыліся (асабліва жанчыны), настрой добры Грае ўкраінская аркестра Романа. Музыка, спакойная, дык і пагаварыць можна тым, хто не танцуе. Пазьней разыгралі лятарэю — беларускую ляльку й выбралі каралеву Полацку. Гонар гэты мела Іна Літвінка.

У нядзелю Божая Служба ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве Жыровіцкае Божае Маці. Служыў Архіяпіскап Мікалай у асысьце а. Максіма, а. Аляксандра, пратадыякана Міхася ды сэрбскіх сьвятароў.

Зноў Полацак. Там ужо Юля Андрусышына зь Нью Ёрку расклала сваё славутае вышываньне. Гэтым разам асабліва цешылі вока беларускія лялькі. Побач разьмясьцілася й невялічкая выстаўка народнага мастацтва ды кніжак. Большая, аднак, выстаўка была наладжаная Беларусамі Кліўленду пры Этнаграфічным Музэі. Выстаўка, дапасаваная да Сустрэчы, працягнецца аж цэлы месяц ды дасьць магчымасьць і іншым пазнаёміцца зь беларускай культурай.

Банкет з прывітаньнямі, прамовамі, прачытаньне праклямацыяў прайшоў вельмі ўрачыста. Сабралі ахвяры на „Беларуса". Была й тэлевізыя. Між іншым, ужо другі раз падчас Сустрэчы, бо была й у сыботу на Інстытуцкай Канфэрэнцыі.

Пасьля банкету ўсе перайшлі ў будынак амэрыканскай школы, што насупраць Полацку, дзе адбыўся канцэрт. Канцэрт быў надзвычайна ўдалы. Як наш госьць з Ангельшчыны заўважыў: „Праплакаў цэлы канцэрт. Ніколі яшчэ такога на эміграцыі ня бачыў".

Пасьля канцэрту разыйшліся хто-куды, каб пазьней узноў спаткацца на вечарыне. Вечарам трохі пасьвяжэла. У залі сабраліся ахвотныя паскакаць. Бальшыня, аднак, была на двары, каля бару, пры маёўкавых сталох. Моладзь — каля возера. Гулялі да позьняй ночы, ці, інакш кажучы, да раньня. Моладзь дык мусіць ня спала цэлую ноч — так шмат уражаньняў.

У панядзелак рана ўсе ўжо разьехаліся. Разьехаліся з добрым настроем, з прыемнымі ўспамінамі, каб, як было пастаноўлена на паседжаньні БАЗА, спаткацца ўзноў праз два гады нейдзе на ўсходнім пабярэжжы, ці то ў Нью Ёрку, ці то ў Нью Джэрзі.

Яшчэ адна Сустрэча — удалая, памысная, цікавая, добра зарганізаваная — прамінула.

Дзякуем, Кліўлендцы!

(Пра ўспомненыя імпрэзы глядзеце паасобныя рэпартажы).

**Зора Кіпель**

Ніжэй зьмяшчаем згаданыя вышэй паасобныя рэпартажы із Сустрэчы, пераважна, у іхным скарачэньні й адпаведным адрэдагаваньні Рэдакцыяй газэты „Беларус":

## ПРАГРАМУ СУСТРЭЧЫ ПАЧАЛІ ВЭТЭРАНЫ

Пра гэтую праграму адзін зь ейных удзельнікаў прыслаў Рэдакцыі „Беларуса" наступныя ейныя факты:

У сыботу 30 жніўня а 10-ай гадзіне раніцы сабраліся Беларускія Вэтэраны Аддзелу ў Огаё ды прыбылыя госьці й прадстаўнікі іншых аддзелаў Вэтэранаў у ЗША. Дружына ганаровай варты, пасьля зборкі пры грамадзкай залі на селішчы Полацак, рушыла парадным маршам пад камандай капітана Ю. Гасьцеева на ўзгорак пры будынку ўправы селішча, дзе знаходзяцца машты для вывешваньня сьцягоў. Ганаровая дружына рушыла з маршавай песьняй „Падняты родны сьцяг дзяржавы". Прыбыўшы на пляц управы селішча, капітан Ю. Гасьцееў адрапартаваў генэралу Язэпу Сажычу: „Ганаровая дружына Аддзелу Беларускіх Вэтэранаў у Огаё гатовая да ўрачыстасьці падняцьця сьцягоў". Генэрал, салютуючы, вітае дружыну: „Жыве Беларусь!" Дружына адказвае звонкім кароткім: „Жыве!"

Урачыста ўздымаюцца Амэрыканскі й Беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. На каманду: „Зважай! Да малітвы" вэтэраны дружна пяюць: „Беларусь, наша Маці-Краіна!" Пасьля гэтага адбылася нарада ў памешканьні канцылярыі селішча Полацак, на якой галоўны каманьдзер Беларускіх Вэтэранаў прывітаў нававыбраную ўправу Аддзелу ў складзе: кап. Ю. Гасьцеева — каманьдзера, ст. лейт. В. Падліпскага—ягонага заступніка, ст. лейт. М. Ягаўдзіка — сакратара і лейт. Каваленкі — скарбніка.

Сваю нараду закончылі Беларускія Вэтэраны прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

## ЗЬЕЗД АБАМ

Пра гэты Зьезд ягоная ўдзельніца сп-чна Раіса Станкевіч пераслала Рэдакцыі „Беларуса" наступныя весткі:

Зьезд гэты быў прысьвечаны 30-ым угодкам ад заснаваньня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі. А палавіне першай гадзіны забралася на селішчы Полацак моладзь з Кліўленду, Нью Джэрзі, Нью Ёрку й іншых беларускіх асяродкаў. Старшыня Галоўнай Управы АБАМ Юрка Азарка адчыніў Зьезд і ў сваёй прамове адзначыў 30-ыя ўгодкі ў дзейнасьці арганізацыі. Ён падчыркнуў важнасьць маладзежнай арганізацыі ў грамадзкім і культурным жыцьці беларускіх асяродкаў у ЗША.

Тады Вітаўт Тумаш (малодшы) прачытаў пратакол папярэдняга Зьезду, які адбыўся ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, год таму назад. Юрка Азарка й Раіса Станкевіч паінфармавалі пра стан стыпэндыяльнага фонду імя прафэсара Івана Любачкі.

Прадстаўнікі Аддзелу АБАМ зрабілі справаздачы зь дзейнасьці за апошні год. Запрапанаваная Галоўнай Управай зьмена ў статуце АБАМ была прынятая аднагалосна.

У дыскусыі быў абмеркаваны плян працы на будучыню. Аддзел АБАМ у Кліўленьдзе паінфармаваў пра супрацоўніцтва зь іншымі беларускімі арганізацыямі й пляны будаваньня прыгожае залі на селішчы Полацак. Быў пададзены праект цясьнейшага супрацоўніцтва паміж Галоўнай Управай і Аддзеламі АБАМ. Наапошку Юрка Азарка падаў плян урачыстага адзначэньня 30-ых угодкаў Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, якое адбудзецца ў Нью Джэрзі ў канцы лістапада сёлета й падчас якога адбудзецца Банкет і Вечарына зь неспадзеўкамі.

## БАНКЕТ СУСТРЭЧЫ

Заплянаваны кіраўнікамі Сустрэчы Банкет стаўся ўдала зарганізаванай палітычнай імпрэзай. Распачаўся Банкет а першай з палавінаю гадзіне ў новаадрэмантаванай і ўдэкараванай залі селішча Полацак. Былі тут і беларускія стравы й напіткі, прыгожа беларускімі народнымі ўзорамі ўдэкараваныя сталы, на сьценах партрэты беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў, лёзунгі й плякаты на тэму Сустрэчы, выстаўкі беларускіх умельцаў, друку й сувэніраў. Было вельмі шмат жанчынаў і моладзі ў беларускім народным адзеньні. Урачыстасьць была адчыненая малітвай Архіяпіскапа Мікалая з Таронта.

Афіцыйная частка Банкету пачалася каля 2-ой гадзіны ўступнымі словамі старшыняў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Антона Шукелойця й Задзіночаньня Беларусаў Канады Вячаслава Касьцюкевіча.

## ТРЫЦЦАЦІГОДЗЬДЗЕ АДДЗЕЛУ БАЗА Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Інфармацыйны даклад на гэтую тэму зрабіў д-р Вітаўт Кіпель. Вось кароткі зьмест ягонага дакладу: Беларусы пачалі сяліцца ў Кліўленьдзе ад 1890-ых гадоў. Прыхаджане першага праваслаўнага прыходу ў горадзе былі вылучна эмігранты зь Менскае, Горадзенскае й Віленскае губэрняў. Бальшыня гэтых людзей была зусім нясьведамая нацыянальна, яна хутка згубіла лучнасьць з бацькаўшчынай ды поўнасьцяй зрусыфікавалася й замэрыканізавалася. Аднак было сярод гэтых першых эмігрантаў некалькі сьведамых Беларусаў. Адным зь іх быў эмігрант зь Берасьцейшчыны Іван Белямук. Ён пасьля мінулай вайны пачаў рабіць захады, каб сьцягнуць зь Нямеччыны свайго ўнука — Міхася Белямука. Сп. Міхась Белямук і быў першым беларускім палітычным эмігрантам у Кліўленьдзе. У сваю чаргу ён сьцягнуў сваіх сяброў зь Нямеччыны: Кастуся Калошу, Сьцяпана Кісяля, Янку Раковіча, Сяргея Карніловіча й іншых. Вось гэтак нарадзілася ў Кліўленьдзе нацыянальна сьведамая й дзейная беларуская калёнія.

## ПАГВАЛЧАНЬНЕ ЛЮДЗКІХ ПРАВОЎ У БЕЛАРУСІ

З дакладам на гэтую тэму выступіў Д-р Янка Запруднік. Прааналізаваўшы пашырэньне дамаганьняў людзкіх правоў, ён адзначыў, што гэты працэс не абмінуў і Беларусі. Толькі за апошнія гады назіраем там дзейнасьць беларускіх іншадумцаў, як Міхал Кукабака, Бузіньнікаў, Зайцаў, арышты вернікаў, арышты тых Беларусаў, што дамагаюцца выязных візаў із Савецкага Саюзу. Гэткі працэс назіраецца на Ўсходзе Эўропы ўсюды. Сяньня ў Польшчы справа дамаганьня людзкіх правоў прыняла асабліва войстры паварот. Салідарызуемся з дамаганьнямі польскіх работнікаў і мы Беларусы. Сярод бастуючых польскіх работнікаў напэўна ёсьць нямала Беларусаў зь Беласточчыны.

## 30-Я ЎГОДКІ ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС"

Кароткі даклад на гэтую тэму зрабіў галоўны рэдактар газэты Д-р Станіслаў Станкевіч, які выбраў іншы спосаб адзначэньня гэтых угодкаў. Ён сказаў, што найлепшым спосабам гэтага адзначэньня шчодрае падтрыманьне газэты, а справаздачна-юбілейны даклад надрукаваны ў жнівеньскім-верасеньскім нумары „Беларуса". Прысутныя адклікнуліся на гэты заклік тым, што тамжа адразу заахвяравалі на Выдавецкі Фонд „Беларуса" роўна 800 даляраў.

## ПРАМОВА СЭНАТАРА МЭТЦЭНБАЎМА

Пачэсным гасьцём на Банкеце быў Сэнатар ад штату Огаё Говард Мэтцэнбаўм, якога спаткала пры ўваходзе й увяла ў залю Оля Лукашэвіч. Сэнатар Мэтцэнбаўм неаднаразова інтэрвэньяваў на карысьць увядзеньня беларускай мовы ў праграмы радыя Голас Амэрыкі, а таксама заўсёды адзначаў угодкі 25 Сакавіка ў Сэнаце ЗША. Летась падняты над Капітолем Амэрыканскі сьцяг у вадзначэньне Дня Незалежнасьці Беларусі ён падараваў Беларусам Кліўленду.

Прамова Сэнатара Мэтцэнбаўма была прысьвечаная аналізу праводжаньня палітыкі падтрыманьня дамаганьняў людзкіх правоў, асабліва ў краінах, паняволеных Саветамі. Калі Дзяржаўны Дэпартамант часам і асьцярожны ў сваёй палітыцы, — казаў Сэнатар, — дык я ўважаю, што тут ня можа быць ніякага кампрамісу. Такія людзі, як Міхал Кукабака, акадэмік Сахараў і іншыя, сталі на бескампрамісовы шлях здабыцьця правоў сваім народам, і я іх поўнасьцяй падтрымліваю.

Прамова Сэнатара неаднаразова перарывалася гучнымі воплескамі ды двойчы таго дня была паказаная ў праграмах „Навінаў" у тэлебачаньні. Пры разьвітаньні із Сэнатарам Оля Лукашэвіч ад імя Сустрэчы падаравала яму беларускі альбом. Калі-ж Сэнатар наведваў стоічы сувэніраў і ўпадабаў ляльку ў беларускім народным адзеньні (у выкананьні Юлі Андрусышынай зь Нью Ёрку), Аддзел БАЗА падараваў яму гэтую ляльку.

## ПРАМОВА ПРАФЭСАРА КАРЛА БОНУТТЫ

Наступным прамоўцам быў прафэсар Карл Бонутты — дырэктар Цэнтру Этнічных Дасьледваньняў факультэту Экамномікі Кліўлендзкага Штатавага Ўнівэрсытэту. Ён ка-

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

## КАЛЯДНЫЯ Й НАВАГОДНІЯ ВІНШАВАНЬНІ Й ПАЖАДАНЬНІ ПРАЗ НАШУЮ ГАЗЭТУ

Як і мінулымі гадамі, лістападаўскі-сьнежанскі (падвойны на 8-ёх бачынах) нумар „Беларуса" за сёлетні год ахвотна служыць нашым Суродзічам дзеля калядніх і навагодніх віншаваньняў і пажаданьняў. Каб мець зьмешчанае сваё імя й прозьвішча ў супольнай двушпальтавай у прыгожых рамках калёнцы, трэба да **15 лістапада** прыслаць у Рэдакцыю **10 даляраў.** А хто жадаў-бы зьмясьціць сваё павіншаваньне асобна ў рамках на 2-юх шпальтах газэты (гэта датычыцца ня толькі да асобаў, але й арганізацыяў ды ўстановаў), неабходна да 15 лістапада прыслаць **25 даляраў.**

Карыстайце з добрай нагоды! Гэтым Вы матарыяльна паможаце нашай газэце ў ейнай адказнай нацыянальнай службе.

## ДА ПАДПІШЧЫКАЎ "БЕЛАРУСА" Ў КАНАДЗЕ

Дасюлешняя практыка паказала, што навет пры найбольш старанным і сваячасовым рассыланьні газэты былым адміністратарам „Беларуса" ў Канадзе Антонам Маркевічам, яна ўсё-ж трапляла да іх шмат пазьней, чымся калі высылалася ім беспасярэдня зь Нью Ёрку. Таму ўжо даўно некаторыя падпішчыкі газэты ў Канадзе былі адмовіліся ад Маркевічавага пасярэдніцтва, а атрымлівалі газэту беспасярэдня зь Нью Ёрку, куды прысылалі рэгулярна падпіску й навет ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса".

У сувязі з гэтым больш за месяц таму назад Рэдакцыя „Беларуса" пастанавіла поўнасьцяй адмовіцца ад пасярэдніцтва А. Маркевіча, а высылаць газэту паасобным падпішчыкам у Канадзе беспасярэдня зь Нью Ёрку. Аднак сп. А. Маркевіч у сувязі із сваім пераездам на сталае месца жыхарства з Таронта ў Ашаву зацягнуў перасылку ў Рэдакцыю адрысоў падпішчыкаў у Канадзе. І толькі 6 кастрычніка сёлета былі ад яго атрыманыя ўспомненыя адрысы й грашовы разьлік з Рэдакцыяй. Але ўзноў-жа, у сувязі зь пераездам у Ашаву, ён пераслаў згаданыя адрысы ў вялікім беспарадку, а значную іх колькасьць без паданьня нумароў пошты або г. зв. „Зіп код", безь якога звычайна газэта даручаецца поштай пазьней або й зусім не даручаецца.

У сувязі з гэтым, пачынаючы ад 280-281 жнівеньскага-верасеньскага нумару, высылаем на атрыманыя ад сп. А. Маркевіча адрысы газэту беспасярэдня зь Нью Ёрку ды адпаведную колькасьць экзэмпляраў беларускім грамадзкім арганізацыям у Канадзе зь ветлівай просьбай перадаваць іх тым, якія з прычыны недакладнасьці атрыманых ад сп. А. Маркевіча адрысоў газэты не атрымаюць, ды раздаваць яе ў якасьці „пробных нумароў" эвэнтуальным будучым падпішчыкам.

Дык ад гэтага часу афіцыйнае прадстаўніцтва „Беларуса" ў Канадзе больш ня існуе, а ўва ўсіх газэтных справах просім зварачацца беспасярэдня ў Рэдакцыю ў Нью Ёрку й туды-ж перасылаць грошы, але толькі ў валюце ЗША.

**Рэдакцыя Газэты „Беларус"**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# МІХАЛ КУКАБАКА Ў ШПІТАЛІ

Як падаў апошні нумар самвыдавецкага расейскага часапісу „Хроніка бягучых падзеяў" („Хроника текущих событий" № 56 за 30 красавка 1980 г.), што кагадзе трапіў на Захад, Міхал Кукабака 23 красавіка сёлета быў перавезены ў менскі шпіталь для зьняволеных зацёкам ног ды болямі ў гаймаравай паражніне (хвароба вуха).

М. Кукабака быў засуджаны ў чырвені 1979 г. у Бабруйску за свае палітычныя, рэлігійныя й нацыянальныя перакананьні на тры гады турмы, і тэрмін зьняволеньня адбываў у новаполацкім канцлягеры.

М. Кукабака даўно ўжо адмовіўся ад савецкага грамадзянства ды дамагаецца права на выезд замежы, у якую хаця дэмакратычную краіну.

Паводля вышэй згаданага нумару „Хронікі", Кукабаку ня пусьцілі на курс токараў, не дазвалялі ўзяць зь лягернае бібліятэкі нямецка-расейскага слоўніка, не давалі магчымасьці купляць у кніжнай краме. Ад яго забралі ўсе адрысы (у тым ліку й адрысы афіцыйных асобаў і пракуратуры), копіі жальбаў, заяваў і лістоў, запісы пра атрыманыя й высланыя лісты, сьпіс асабістых рэчаў, кнігі ў ангельскай мове.

Кукабаку перавялі былі на новую працу — вязаць сеткі. За нявыкананьне нормы яго каралі штрафным ізалятарам.

У лістападзе ці сьнежні 1970 году, — падае „Хроніка бягучых падзеяў", — Кукабаку далі 6 месяцаў „памешканьня камэрнага тыпу" за тое, што ў кіно (наведваньне кіно — прымусовае) ён адварочваўся ад экрану й затыкаў вушы ватай.

Кукабака, — падае „Хроніка", — дамагаўся пераводу яго ў іншую калёнію.

23 красавіка 1980 г. яго прывезьлі ў Менск у шпіталь, куды прывозяць цяжка хворых зьняволеных з усіх канцоў Беларусі.

# УЗМАЦНЕНЬНЕ "ГОЛАСУ АМЭРЫКІ"

У газэце „Нью Ёрк Таймс" за 11 верасьня сёлета, у лісьце да рэдактара, быў выказаны дакор, што кіраўніцтва „Голасу Амэрыкі" ня робіць адпаведных захадаў, каб узмоцніць сыгнал сваіх міжнародных перадачаў „Голасу Амэрыкі", чутнасьць якіх паслабляецца.

У вадказ на гэны ліст зьявіўся ў „Нью Ёрк Таймсе" за 1 кастрычніка адказ сп-ні Мэры Бітэрман, дырэктара „Голасу Амэрыкі" (ліст датаваны 19 верасьня 1980 г.).

Сп-ня Бітэрман кажа, што „Голас Амэрыкі" цяпер, маючы падтрыманьне з боку Прэзыдэнта Джымі Картэра й Кангрэсу ЗША, знаходзіцца ў працэсе важнага ўзмацненьня сваіх перадатчыкаў. Дзякуючы гэтаму ўзмацненьню будзе пераможаная рэшта цяжкасьцяў, якія маюць замежныя слухачы „ГА" з чутнасьцяй праграмаў радыястанцыі. У выніку гэтага ўзмацненьня, піша ў сваім лісьце сп-ня Бітэрман, лепш будуць чуваць перадачы „ГА" ў савецкай Цэнтральнай Азіі ды ў музулманскім сьвеце наагул, дзе цяпер вялікае зацікаўленьне да падзеяў у Афганістане.

Нажаль, на Беларусі чутнасьць перадачаў „Голасу Амэрыкі" аніяк не паляпшаецца ад узмацненьня перадатчыкаў, бо адміністрацыя радыястанцыі трымаецца далей палітыкі дыскрымінацыі беларускае мовы.

Чытачы „Беларуса" й кіраўнікі беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы й вонках яе заклікаюцца гэтым зварачацца далей да кангрэсмэнаў, сэнатараў, а таксама да Фэдэральнага ўраду ў Вашынгтоне й дырэкцыі „Голасу Амэрыкі", з просьбамі, каб беларуская мова — мова рэспублікі, што мяжуе з Польшчай, дзе цяпер адбываюцца бяспрэцэдэнтавыя ў гісторыі савецкага камунізму працэсы зьменаў — была ўведзеная ў праграмы „ГА". Вельмі важна падаваць у сваіх зваротах да афіцыйных асобаў сьвежыя довады зацікаўленасьці на Беларусі ў перадачах „Голасу Амэрыкі" беларускаю мовою.

### ПРА БЕЛАРУСЬ У ПРАГРАМЕ РАДЫЯ "WABC"

Ньюёркаўская радыястанцыя "W-ABC" распачала сэрыю праграмаў у мэтах збліжэньня англамоўных і іншамоўных формаў інфармацыі. Першая радыёвая канфэрэнцыя на гэтую тэму адбылася 28 ліпеня сёлета, на якую быў запрошаны д-р Вітаўт Кіпель.

Канфэрэнцыя была на тэму сяньняшніх эміграцыйных праблемаў. Іншымі ўдзельнікамі канфэрэнцыі былі рэдактары газэтаў „Ньюс Вік" і „Бізнэс Вік", прадстаўнік штатавага ўнівэрсытэту ў Нью Джэрзі Ратгерс, а вёў канфэрэнцыю рэдактар аддзелу навінаў радыястанцыі "WABC" Пол Эрліх.

Канфэрэнцыя гэтая адбывалася пры мікрафонах і адразу перадавалася ў паветра. Гэткім парадкам слухачы мелі магчымасьць адразу ўдзельнічаць у канфэрэнцыі.

Аналізуючы новыя групы эмігрантаў, д-р Кіпель, а за ім і іншыя ўдзельнікі канфэрэнцыі, давалі прыклады зь беларускае групы. Дарэчы, неабходна адзначыць, што праграмы радыястанцыі "WABC" транслююцца аж у сараку штатах, і гэта выдатная прапаганда. Неўзабаве будуць арганізаваныя канфэрэнцыі на іншыя тэмы, у якіх таксама будуць удзельнічаць Беларусы.

**В.К.**

### АЎГЕН БУЗІНЬНІКАЎ У ІНШЫМ ЛЯГЕРЫ

Як падала „Хроніка бягучых падзеяў" („Хроника текущих событий", № 56, 30 красавіка 1980 г., б. 103 машынапіснага экзэмпляру), Аўген Бузіньнікаў, беларускі работнік і іншадумец, што, як і Міхал Кукабака, адбывае цяпер турэмнае пакараньне за свае палітычныя пераканаьні, быў пераведзены на пачатку студзеня сёлета ў іншы лягер: 169-00, Коми АССР, ст. Княж-Погост, пчр. АН-243/8-1.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА МАДРЫДЗКАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

Сёлета 8 ліпеня ў залі Каліфарнійскага Ўнівэрсытэту ў Лёс Анджэлесе адбыўся міжнацыянальны сход, ладжаны дараднікам Дзяржаўнага Дэпартаманту з Вашынгтону. Сход вёў д-р Макс Кампэльман, як адзін із старшыняў дэлегацыі ЗША на міжнародную канфэрэнцыю аб Бясьпецы й Супрацоўніцтве ў Эўропе, якая мае адбыцца ў лістападзе сёлета у Мадрыдзе й разгледзіць пытаньне, як выконваюцца забавязаньні, прынятыя ў Гэльсінках у 1975 годзе.

У вапошняй частцы сходу ўдзельнікі мелі магчымасьць асабіста спаткацца з д-рам Капэльманам, пагутарыць зь ім і перадаць яму прапановы й надрукаваныя інфармацыі. З гэтай нагоды скарыстаў і беларускі прадстаўнік, якому было прыемна пачуць, што д-р Капэльман ужо знае справу беларускага іншадумца Міхала Кукабакі.

**Н.**

### ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

Сёлетняе адзначэньне Тыдня Паняволеных Народаў, як і ў мінулых гадох, ладзіла Арганізацыя Амэрыканцаў за Свабоду Паняволеных Народаў. На пачатку Тыдня, у сыботу 12 ліпеня, адбылася міжнацыянальная ўрачыстая праграма каля вугорскага помніка Змагаром за Свободу ў парку Мэк Артура. Падчас праграмы стаялі пры помніку нацыянальныя сьцягі, між імі й беларускі. Праграму вёў старшыня арганізацыі д-р Альгерд Клейнот. Былі прачытаныя праклямацыі Прэзыдэнта Джымі Картэра й Гарадзкой Управы аб Тыдні Паняволеных Народаў. З прамовай выступіў у вэтэранскай форме даўгалетні й актыўны сябра Арганізацыі Амэыканцы за Свобаду Паняволеных Народаў і ейны былы старшыня, Эстонец. За ягоныя вялікія заслугі для Арганізацыі была прынятая пастанова лічыць яго ганаровым старшынём. Паангельску прачытаў прамову украінскі іншадумец Каравапскі. Была прынятая рэзалюцыя, прысьвечаная Тыдню. Была сказаная малітва „Ойча наш" на розных мовах прысутнымі сьвятарамі й сьвецкімі асобамі. Пабеларуску малітву сказаў сп. Часлаў Найдзюк. Беларускія прадстаўнікі правялі кароткія гутаркі зь іншанацыянальнымі прадстаўнікамі й сп. Каравапскім, які прыгадаў беларускага іншадумца Раманчука, зь якім разам сядзеў у савецкай турме.

На заканчэньне Тыдня ў сыботу 19 ліпеня ў касьцеле Сьв. Базыля адбылася Божая Служба, падчас якой стаялі нацыянальныя сьцягі, між імі й беларускі.

**Н.**

# 14-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

заў, што Кліўленд можа ганарыцца дасягненьнямі Беларусаў у галіне культываваньня сваёй культурнай спадчыны. Ад імя ўдзельнікаў Сустрэчы прафэсару Бонутты была падараваная Анталёгія Беларускай Савецкай паэзіі ў ангельскай мове Веры Рыч, выданьня ЮНЭСКО, дарэчы, на патрабаваньне Саветаў, сканфіскаваная на Захадзе.

## ВЫСТУПЛЕНЬНЕ ГАСЬЦЕЙ

Выступалі з прывітаньнямі: ад Беларусаў Ангельшчыны сп. Аляксандар Лашук, ад Беларусаў Чыкага — сакратар Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Чыкага сп-ня Вера Рамук, а ад Згуртаваньня Беларусаў штату Іліной — ягоны старшыня сп. Антон Беленіс. Сп-ва Рамукі падаравалі Кліўленду ляльку ў беларускім народным адзеньні, як першы экспанат у заплянаваным беларускім музэі ў Кліўленьдзе. Д-р В. Кіпель ад імя Сустрэчы прывітаў прысутных гасьцей з Каліфорніі (сп-ню Юзю Найдзюк і сп-ню Шэлест), Беларусаў з Польшчы, Францыі, прадстаўнікоў гасьцей за галоўным сталом: Архіяпіскапа Мікалая, а. Максіма, а. Аляксандра, а.а. Радэнковіча й Дабрасаўлевіча ад Сэрбскае Праваслаўнае Царквы, а таксама прысутных на залі беларускіх амэрыканскіх і канадыйскіх арганізацыяў і рэдактара часапісу „Современник" А. Гідоні й ягоную жонку сп-ню Галіну Румянцаву.

Ад Прэзыдэнта Джымі Картэра зь Белага Дому была атрыманая тэлеграма, у якой казалася: „Вельмі важна, каб Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне прадаўжала праводзіць сваю дзейнасьць, накіраваную на захаваньне беларускай культурнай спадчыны".

Былі атрыманыя прывітальныя тэлеграмы ад Украінскага Задзіночанага Камітэту Кліўленду, Агульнаамэрыканскага Лятувіскага Задзіночаньня, ад Цэнтральнага Камітэту Латыскіх Арганізацыяў і ад шматлікіх беларускіх арганізацыяў.

На заканчэньне Банкету сябры Галоўнай Управы БАЗА Раіса Станкевіч і Вячаслаў Станкевіч прачыталі ў ангельскай і беларускай мовах праекты рэзалюцыяў, якія былі прынятыя аклямацыямі й былі надрукаваныя ў папярэднім нумары „Беларуса".

Малітвай і агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну быў закончаны Банкет.

## КАНЦЭРТ СУСТРЭЧЫ

Беларускі асяродак у Кліўленьдзе трэба шчыра павіншаваць за арганізацыю вельмі ўдалай праграмы 14-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Канцэрт, які адбыўся ў залі амэрыканскай гімназіі насупраць селішча Полацак, адзначыўся добрым падборам паасобных нумароў праграмы й таксама эфэктоўным балянсам танцу, песьні харавой, груповай і салёвай, музыкі клясычнай і народнай, ды дэклямацыямі.

Канцэрт распачаўся Амэрыканскім гімнам у магутным выкананьні Іры Каляды. Ейны сьпеў ведамы ня толькі ў штаце Огаё, але й у іншых мясцовасьцях Амэрыкі й Канады. Яе ўсе ведаюць зь беларускіх фэстываляў у Нью Джэрзі. Пасьля гімну яна прапяяла яшчэ некалькі беларускіх народных песьняў.

Танцавальная група „Васілёк" зь Нью Ёрку пад кіраўніцтвам д-ра Алы Орса-Рамана жыва пратанцавала некалькі народных танцаў: „Польку Янку", „Кадрылю", „Польку Васілёк" і „Лявоніху". Пры гэтай нагодзе сп. Васіль Мельяновіч, каардынатар беларусікх арганізацыяў у Балтыморы, Мэрылэнд, паінфармаваў, што танцавальная група „Васілёк" нядаўна падчас Славянскай Канвэнцыі ў Балтыморы заняла 3-яе месца спасярод 18-ёх выступаючых групаў. Ён-жа перадаў „Васільку" ўзнагароду ад Камітэту Канвэнцыі $250.00.

Музычны ансамбль „Віхор" у складзе Генадзя Гуткіна, Валерага Новака й Ларысы Качубэй першаклясна выканаў некалькі новых музычных нумароў з народнага й клясычнага рэпэртуару. Ларыса Качубэй выканала на піяніне ўпяршыню „Прэлюдыю", напісаную кампазытарам Алесем Карповічам.

Малады беларускі піяністы з Дэйтон, штат Огаё ,удала выканаў адзін клясычны нумар. Шкада, што ён не пляную будаваць свае кар'еры ў галіне музыкі.

Данчык Андрусышын зь Нью Ёрку, як заўсёды, спалучаў сьпеў з музыкай і захапіў усіх слухачоў надзвычайным выкананьнем некалькіх песьняў жартаўлівага, лірычнага й рамансавага жанру.

Жанчыны Кліўленду паказалі шырыню свайго таленту ў сьпеве ў розных формах: солё, квартэт і хор. Вольга Лукашэвіч вельмі ўдала выканала песьню „Палескія прасторы", якой глыбака кранула сэрцы прысутных. Квартэт у складзе Валі Ягаўдзік, Гэлены Радзюк, Юлі Радзюк і Аніты Рудзеўскай выканаў шэраг новых песьняў у вельмі цікавым музычным апрацаваньні. Жаноцкі хор Кліўленду пад кіраўніцтвам Кастуся Калошы прыгожа прапяяў некалькі папулярных беларускіх песьняў: „Я ад вас далёка", „Вечаркам за рэчкаю", „Ручнікі" й „Вясна йдзе на Беларусі". Прызнаньне й падзяка належыцца дзьвюм піяністкам Лене Лук'янчук і Вользе Мк Дэрмот за добры акампаньямант да сьпеву.

І абавязкава трэба ўспомніць маладога дэкляматара Юзіка Радзюка, які сьмела й беззаганнай беларускай мовай прадэклямаваў верш Алеся Гаруна „Ты мой брат, каго зваць Беларусам".

Канцэрт закончыўся Беларускім нацыянальным гімнам і песьняй „Год блес Амэрыка" ў вагульным выкананьні ўсіх артыстых і прысутных у залі. Усе былі задаволеныя гэтым высокага мастацкага ўзроўню канцэртам і неахвотна разыходзіліся, хаця ведалі, што перад імі была далейшая цікавая частка праграмы на селішчы Полацак: добрая страва, танцы й спатканьні із знаёмымі.

## УРАЖАНЬНІ ЗВОНКУ

Пад гэткім загалоўкам выказала свае ўражаньні з усяе Сустрэчы выкладчыца Карнэльскага ўнівэрсытэту д-р Тэрэса Альт, якая выступала з навуковым дакладам на Канфэрэнцыі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Кліўленьдзе пра мову Статуту Вялікага Княства Літоўскага. Вось тэкст ейных ўражаньняў, перакладзены з ангельскай мовы:

Ўражаньне, якое пакінула на мне 14-ая Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі — гэта цёплая й уважлівая гасьціннасьць. Была я запрошаная прачытаць даклад на Канфэрэнцыі, прысьвечанай 450-годзьдзю Статуту Вялікага Княства Літоўскага аб мове Статуту ў прыраўнаньні да мовы сучаснай. Мне было вельмі прыемна пабачыць зацікаўленьне аўдыторыі. Іншыя тэмы былі таксама вельмі цікавыя, асабліва тыя, што разглядалі Статут у шырэйшым гістарычным аспэкце. Часам колькі тэмаў, узятых разам, уздымалі новыя пытаньні.

Былі й разрыўкі. Заўсёды прыемна навязаць сяброўства зь людзьмі агульнага зацікаўленьня. Гэтак сама я выкарыстала нагоду, каб наладзіць знаёмствы й кантакты для далейшай працы. Падчас размоваў паўставалі ідэі для далейшых праектаў, прыкладам: зрабіць запісы беларускіх гаворак з розных мясцовасьцяў ды стандартнай беларускай мовы.

Прыйшоў Сэнатар, а зь ім і палітыка. Зразумела, мы ўсе пагаджаемся з асуджэньнем нарушэньняў людзкіх правоў у Савецкім Саюзе, але я задумваюся, ці ўзапраўды палітыкі шчыра клапоцяцца пра людзкія правы ўсіх малых народаў.

Перасеклі дарогу на канцэрт і танцы, бязумоўна найвышэйшы пункт Сустрэчы ў сэньсе чыстай прыемнасьці.

Але як мне было прыемна, калі пасьля ўсяго гэтага людзі яшчэ прадаўжалі цікавіцца й зьвяртацца з пытаньнямі пра мой даклад на Канфэрэнцыі. Гэта дадало мне сілы ўзяцца за працу, якую я была закінула ,а шчырае зацікаўленьне пераканала мяне, што я мушу прадаўжаць сур'ёзна вывучаць беларускую мову.

## ВОДГУК У ПОЛЬШЧЫ

Адна зь Беларусак у Польшчы ў сваім прыватным лісьце ў Рэдакцыю газэты „Беларус" у жніўні сёлета напісала:

„Зь „Беларуса", нашай мілай газэты я даведалася, што сёлета ў верасьні адбудзецца Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Я жадаю ёй вялікіх посьпехаў. Магчыма за два гады, у 1982 годзе, калі Бог дасьць здароўе, і я вазьму ўдзел у Сустрэчы. Шчыра Вас вітаю й жадаю на даўгія гады здароўя, каб як найдаўжэй кіравалі й выдавалі нашую дарагую й найлепшую газэту" (прозьвішча аўтаркі гэтага ліста із зразумелых прычынаў не падаецца).

## ДАПІСКА РЭДАКЦЫІ

Нельга закончыць гэтага агляду, каб яшчэ раз не вярнуцца да дакладу Яна Пятроўскага пра беларускага паэту Гальляша Леўчыка на 100-ыя ўгодкі ад ягонага нараджэньня. Тыя бачыны тэксту, якія былі Янам Пятроўскім прачытаныя ў часе дакладу, сьветчаць пра вельмі карысную навуковую працу дакладчыка. Застаецца пажадаць, каб праца гэтая выйшла друкам, бо Гальляш Леўчык поўнасьцяй заслугоўвае гэтага.

# ДЖОРДЖ БУШ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

17 верасьня сёлета наведаў Кліўленд кандыдат на Віцэ-Прэзыдэнта Амэрыкі ад Рэспубліканскае Партыі Джордж Буш.

Сярод прадстаўнікоў ад розных нацыянальнасьцяў на пляцы Кардынала Міндшэнты Джордж Буш, ганаруючы паняволеныя Масквою народы, зложыў вянок перад бюстам Кардынала, які, як ведама, быў зьняволены камуністымі ды пражыў даўгія гады ў амэрыканскай амбасадзе ў Будапэшце. На гэтай урачыстасьці прысутнічала група сяброў Кліўлендзкага Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, а сп-ні Іра Каляда-Сьмірнова й Эва Яраховіч у прыгожых народных касьцюмах афіцыйна рэпрэзэнтавалі Беларусаў, трымаючы вялікі транспарэнт з надпісам „Беларусь".

У вадным зь лепшых рэстаранаў гораду адбылося прыняцьцё для прадстаўнікоў розных нацыянальных групаў і высокіх прадстаўнікоў гораду. Прабег гэтай урачыстасьці быў перададзены на трох каналах тэлевізыі й у мясцовых газэтах. Прадстаўніцай ад Беларусаў дзеля зарганізаваньня гэтае ўрачыстасьці была Таццяна Кананчук.

Два дні пазьней, 19 верасьня ў праграме аднае тэлевізыйнае станцыі сп-ня Ольга Лукашэвіч пазнаёміла зь Беларусяй: расказала пра ейнае геаграфічнае палажэньне, народ, звычаі, успомніўшы, што Беларусы маюць тут сваю царкву й грамадзкае селішча Полацак.

**П. Б.**

# СЛАВЯНСКІ ФЭСТЫВАЛЬ У НЬЮ ЁРКУ



**Сядзяць зьлева направа: Юрка Азарка, Нона Махнюк (цяпер Азарка), Вітаўт Тумаш (малодшы), Кастусь Мярляк, Зінаіда Станкевіч. Стаяць зьлева направа: Юры Андрусышын, Раіса Станкевіч, Янка Капура, Багдан Андрусышын, Ганна Мярляк.**

Як довад удзелу беларускай моладзі ў арганізацыі Тыдня Славянскіх Культураў зьмяшчаем фатаграфію зь мінулага году беларускай рэпрэзэнтацыі на Балі ў Білтмор-гатэлі ў Нью Ёрку ў праграме Тыдня Славянскіх Культураў. Спаміж асобаў на фатаграфіі аж сем сяброў маладзежнай арганізацыі. Гэтае супрацоўніцтва моладзі працягваецца й сёлета.

Спачатку інфармацыя: Арганізацыя, ведамая як „Тыдзень Славянскіх Культураў", якая існавала пад гэтым назовам два гады, зьмяніла свой назоў на „Рада Славянскае Спадчыны ў Нью Ёрку" (Slavic Heritage Council of New York).

Была яна пад гэткім назовам афармленая на гадавым паседжаньні 22 травеня сёлета. У Раду Дырэктароў гэтае арганізацыі былі выбраныя прадстаўнікі наступных славянскіх народаў: Баўгараў, Беларусаў, Македонцаў, Палякаў, Расейцаў, Сэрбаў, Славакаў, Чэхаў, Харватаў і Ўкраінцаў. На тым-жа паседжаньні 22 травеня быў абмеркаваны ўдзел арганізацыі ў Славянскай Канвэнцыі ў Балтыморы, у якой пазьней і прынялі ўдзел ейныя прадстаўнікі. У новапаўсталую арганізацыю ад Беларусаў увайшлі: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскай Моладзі й Танцавальная Група „Васілёк"

Зьмена назову арганізацыі сталася неабходнай зь дзьвюх прычынаў. Першае, таму, што заплянаваная Радай Славянскае Спадчыны дзейнасьць была пашыраная, заміж аднаразовага „Тыдня Славянскіх Культураў", на іншыя культурныя імпрэзы на працягу году. Другое, таму, што скаліся абставіны, пры якіх супрацоўніцтва славянскіх групаў з каардынатаркай працы пры ладжаньні „Тыдня Славянскіх Культураў" Д-рам Верай фон Вірэн-Гарчынскай сталася немагчымым. Гэтая Спадарыня, узурпуючы правы Славянскага Камітэту, які ладзіў гэны „Тыдзень Славянскіх Культураў", на сваю руку выключыла прадстаўнікоў некалькіх славянскіх групаў з гэтага Камітэту. У вадказ на гэта Славянскі Камітэт спыніў сваё супрацоўніцтва з названай Спадарыняй.

Ужо ў мінулым годзе Славянскі Камітэт пачаў захады на атрыманьне асобнага чартару на гэтую арганізацыю незалежна ад таго факту, што першым чартарам карысталася Д-р Вера фон Вірэн-Гарчынская. Чартар быў атрыманы, аднак быў ён выстаўлены на стары назоў „Тыдня Славянскіх Культураў". Цяпер-жа праводзіцца зьмена назову арганізацыі ў чартары.

Нашая арганізацыя „Рада Славянскай Спадчыны" як першую сваю імпрэзу ладзіць „Славянскі Фэстываль у Нью Ёрку" — „Тыдзень Славянскіх Культураў".

Ніжэй падаём праграму заплянаваных імпрэзаў. Праграма будзе праводзіцца ў часе ад 9 да 16 лістапада сёлета. Пачатак 9 лістапада (нядзеля) а гадзіне 2:30 папаўдні Фэстываль Народных Танцаў з удзелам 10-ёх танцавальных групаў. У панядзелак 10 лістапада ўвечары адкрыцьцё Мастацкае Выстаўкі, якая будзе трываць цэлы тыдзень. У сыботу 15 лістапада адбудзецца Сымпозіюм у Ньюёркаўскім Унівэрсытэце (N. Y. U.) на тэму „Multiculturalism in Future Generation in the U.S.A." У сыботу й нядзелю (15 і 16 лістапада) выстаўка народнага мастацтва з музычнымі й танцавальнымі выступленьнямі, а таксама із славянскай ежай.

Падробная праграма будзе разасланая асобам, што жывуць у Нью Ёрку й ваколіцах.

Мы Беларусы ўважаем, што Рада Славянскае Спадчыны зьяўляецца адзінай запраўднай славянскай этнічнай арганізацыяй у Нью Ёрку, тады калі спроба Д-ра Веры фон Вірэн-Гарчынскай, дублюючы нас, ніяк ня можа прэтэндаваць на прызнаньне. Бо не ў назове й не ў ініцыятыве ці ў затрачанай працы на рыхтаваньне праграмы, але ў факце, каго арганізацыя рэпрэзэнтуе, ейная сіла. І ніяк штучна зьлепленая імітацыя арганізацыі з часткі Расейцаў ды Палякаў не патрапіць рэпрэзэнтаваць культуры паняволеных камунізмам Славянаў.

**Раіса Станкевіч**

# ПРЫВІТАНЬНЕ "БЕЛАРУСУ"

**ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ СПАДАР РЭДАКТАР ГАЗЭТЫ „БЕЛАРУС"!**

У сувязі з 30-цігодзьдзем выхаду ў сьвет газэты „Беларус" ейныя чытачы із Сыднэю й ваколіцаў выказваюць Вам нашую глыбокую падзяку за Вашую ахвярную й нястомную працу, якую Вы ўжо гэтулькі год бязупынна выконваеце. Мы шчыра дзякуем Рэдакцыі газэты й усім тым, што дапамагаюць у ейным выданьні.

Для нашае, адарванае ад Бацькаўшчыны й іншых эміграцыйных беларускіх асяродкаў, групы газэта „Беларус" праз многія гады, як і цяпер, зьяўляецца тым лучнікам, які прыносіць нам ня толькі новыя весткі, але й пачуцьцё адзінства ды часта, даведаўшыся зь яе аб дасягненьнях іншых, падбадзёрвае й нас да высілку ў працы.

Дык шмат год Салянізантцы!

Прадстаўніца газэты
„Беларус" у Сыднэі
**Аўгеня Каранеўская**

## СПАДАРУ МІКАЛАЮ СКАБЕЮ

*споўнілася сёлета 75 год ад ягонага нараджэньня. З гэтае нагоды шчыра жадаюць Яму ўсякае памыснасьці, добрага здароўя й даўгога жыцьця ягоныя*

*Сябры й Прыяцелі*

# НАДЗВЫЧАЙНЫ ЦАРКОЎНЫ СХОД У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

28 верасьня сёлета Царкоўная Рада склікала надзвычайны сход нашага прыходу. Сход заслухаўшы старшыню Царкоўнай Рады аб падзеях ненармальных у нашым царкоўным жыцьці, прыняў рэзалюцыю аб пераходзе нашага прыходу пад адміністрацыйную апеку Ўладыкі Мікалая — Архіяпіскапа БАПЦ у Канадзе.

У справе беларускага магільніку ў Кліўленьдзе была выбраная спэцыяльная камісія ў складзе а. Максіма, пратадыякана Міхася, сп-ні Вольгі Стрэчань ды К. Калошы для далейшага вядзеньня справы, зьвязанай з гэтым магільнікам.

Наапошку была прынятая аднагалосная пастанова аб спыненьні грашовых складак у Кансысторыю БАПЦ да часу палагоджаньня няпрыемных справаў у нашым царкоўным жыцьці.

**К. С.**

# ФЭСТЫВАЛЬ У ПАРКУ "СВАБОДЫ"

Перш-наперш аб парку. Парк „Свабоды" („Лібэрты Парк") — зусім малады, бо быў інаўгураваны толькі 14 чырвеня 1976 году. Створаны быў парк пры дапамозе фэдэральнай і штатавай, аднак уважаецца паркам штатавым зь некаторай фэдэральнай адміністрацыяй. Разьмешчаны парк „Свабоды" на ўзьбярэжжы ракі Гадсон, у адміністрацыйных межах гораду Джэрзі Сіты, якраз насупраць Статуі Свабоды й паблізу востраву „Сьлёзаў" („Эліс Айлэнд").

Парк „Свабоды" разам із Статуяй Свабоды й музэем іміграцыі ды востравам „Сьлёзаў" мае ствараць архітэктурны камплекс-помнік мільёнам імігрантаў, якія з востраву „Сьлёзаў" накіроўваліся ў Нью Джэрзі, Пэнсыльвэнію, Агаё ды далей на захад. Ад дня адчыненьня парку нацыянальныя групы штату маюць у парку значную вагу. Падчас Тыдня Паняволеных Народаў у парку падымаюцца сьцягі паняволеных народаў, шмат якія нацыянальнасьці ладзяць у парку свае фэстывалі, маёўкі, зборкі. Летась, зь ініцыятывы Этнічнае Рады Штату, у парку былі пачатыя этнічныя фэстывалі, у якіх бярэ ўдзел панад пяцьдзесят нацыянальнасьцяў.

Сёлетні фэстываль адбываўся 13 і 14 верасьня й ад Беларусаў прынялі ў ім удзел: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, Танцавальная Група „Васілёк" ды Асацыяцыя Беларускіх Мастакоў і Ўмельцаў.

Беларусы мелі ў парку некалькі выставачных стоішчаў з вырабамі нашых умельцаў, моладзь арганізавала стоішча беларускіх страваў на продаж (напэўна, ня дрэнна зарабіла), стоішча інфармацыйнае літаратуры пра Беларусь, беларускія выдавецтвы, газэты „Беларус" ды паказ беларускага ўмельства прасьці (Надзя Кудасава із сваёй маладзенькай вучаніцай-памочніцай Лёрай Рагалевіч). У адміністрацыйным будынку адбывалася выстаўка прыгожага мастацтва (кіраўнічкай якой была сп-чна Ірэна Рагалевіч), дзе былі выстаўленыя абразы й беларускіх мастакоў. Выстаўкі нашыя, як заўсёды, прыцягвалі вялікія натоўпы глядачоў.

Усе распытвалі пра Беларусь, Беларусаў Амэрыкі й г. д. З кажным трэба было пагутарыць, растлумачыць, расказаць. Наведвальнікаў былі тысячы, і нам, трэба прызнацца, было й цяжкавата. Аднак спраўляліся, а па заканчэньні фэстывалю ўсе мы: і аўтарка гэтага рэпартажу, і Галіна Русак, і Надзя Кудасава, і Ліза Літаровіч, і Ірэна Рагалевіч, і Шура Сямёнава, і спадарства Кажуры, і сп. Васіль Русак ды наш госьць зь Нью Ёрку й выдатны памагаты Ўладзімер Русак, а так-жа Сяргей Рагалевіч пачуліся, што здабылі яшчэ большае дасьветчаньне й маральнае задавальненьне ў пашырэньні ведаў пра Беларусь.

Нашая танцавальная група прарабіла таксама добрую працу: „Васілёк" выступаў з трыма танцамі, а публіка хацела іх бачыць больш. Аднак, — і гэта хачу падчыркнуць, — моладзь ня толькі танцавала: прыемна было бачыць, калі шматлікім журналістым, а іх было вельмі шмат, інтэрвю давалі ня толькі такія вэтэраны-танцоры, як Юрка Кіпель, Лявон Войтанка, Ната Русак, Вітаўт Тумаш (малодшы), Раіна Сямёнава, а й іхныя маладзейшыя сябры: Вінцусь Мярляк, Мэры Бойчук ды іншыя.

Наагул-жа, калі йдзе гутарка пра рэкляму, дык і на фэстывалі, і перад фэстывалем рэкляма была добрая. Губэрнатар штату Брэндан Бэрн склікаў спэцыяльную прэсавую канфэрэнцыю для прапаганды фэстывалю. На канфэрэнцыі асабліва было прыемна бачыць, як прадстаўнічку маладога беларускага пакаленьня, сп-чну Галіну Бахар. Мы павінны быць удзячныя Галіне, бо спэцыяльна, каб рэпрэзэнтаваць Беларусаў, яна на гэты дзень звольнілася із школы. Спрычыніўся значна для рэклямы нашае групы й Вітаўт Кіпель, бо ён, як кіраўнік Этнічнае Рады Штату і спонсар фэстывалю, мусіў неаднаразова выступаць і на тэлебачаньні, і па радыі, і ў друку ды знаходзіў магчымасьць сказаць нешта пра Беларусаў.

У дзень фэстывалю В. Кіпель і іншыя сябры нашае групы таксама давалі інтэрвю, а некаторыя зь іх ужо былі паказаныя, а некаторыя (на 13-ым канале) яшчэ будуць паказаныя ў адмысловай праграме аб фэстывалі. Наведалі фэстываль і правялі там некалькі гадзінаў і губэрнатар штату Брэндан Бэрн, і амэр. сэнатар Біл Брадлей, паўтузіна кангрэсмэнаў і каля дзесятку бурмістраў навакольных гарадоў. Гледачоў-жа наведала фэстываль каля трыццацёх тысячаў, а рэпартажы пра фэстываль і пра нашую групу друкаваліся ў звыш дваццацёх газэтах. Здаецца, праца нашая была ня дрэнная.

**Зора Кіпель**

**Беларусаў у Савецкім Саюзе,** паводля перапісу 1979 году, **9 мільёнаў 463 тысячы.** Ад 1970 году Беларусаў у СССР пабольшала на 411 тысячаў, г. зн. на 4,5 працэнтаў. У прыраўнаньні да прыросту Беларусаў за пэрыяд 1959-1970 гадоў, прырост Беларусаў ад 1970 да 1979 году становіць аднотраціну.

Працэнтава Беларусы ў СССР станавілі ў 1959 годзе — 3,8%, у 1970 — 3,7%, у 1979 — 3,6% ад усяго жыхарства Савецкага Саюзу.

У Беларускай ССР у 1979 годзе было 9 мільёнаў 532 тысячы жыхароў, зь якіх Беларусы станавілі 79,4%, Расейцы — 11,9%, Палякі — 4,2%, Украінцы — 2,4%, Жыды — 1,4%, іншыя нацыянальнасьці, — 0,6%.

# КАНФЭРЭНЦЫЯ СУСЬВЕТНАЙ АНТЫКАМУНІСТЫЧНАЙ ЛІГІ Й БЕЛАРУСЫ

Ад 24 да 28 ліпеня сёлета ў Жэнэве адбывалася 13-ая Канфэрэнцыя Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі (ВАКЛ). У Канфэрэнцыі прыймалі ўдзел 250 дэлегатаў ад 101 арганізацыйных адзінак — сяброў ВАКЛ, якія рэпрэзэнтавалі 89 краёў усіх кантынэнтаў. Паўнапраўным сябрам ВАКЛ зьяўляецца й Беларускі Вызвольны Фронт, які на Канфэрэнцыі быў прадстаўлены сп. Дзімам Касмовічам і сп-няй Надзяй Касмовіч.

Праца Канфэрэнцыі праходзіла на пленарных паседжаньнях і ў пяцёх камісыях, прысьвечаных наступным тэмам: „Марксізм і Рэлігія", „Савецкая мілітарная загроза Эўропе", „Правы чалавека й нацыянальная незалежнасьць", „Праблемы Азыі — Афганістан — Далёкі Ўсход", „Апрацаваньне супольнага Камунікату".

Беларуская Дэлегацыя працавала ў 2-ой і 3-яй Камісыях. У Камісыі 3-яй, палітычнай, беларускі дэлегат Д. Касмовіч запрапанаваў парадак разгляду й прыняцьця рэзалюцыяў. Прапанова была прынятая. Рэзалюцыя аб Незалежнасьці Беларусі й абароне беларускіх палітычных, культурных і рэлігійных вязьняў у СССР (Рэзалюцыя 6-ая), пры прыхільным падтрыманьні эўрапейскіх прадстаўнікоў, без папраўак, аднагалосна была прынятая.

Для нас Беларусаў Канфэрэнцыя гэтая падвойнай гістарычнай важнасьці: усе прадстаўнікі вольных народаў Эўропы ў прысутнасьці прадстаўнікоў народаў усяго сьвету й разам зь імі, прыймаючы рэзалюцыю аб Незалежнасьці Беларусі, пацьвердзілі сваю волю, ужо раз выказаную ў гістарычнай пастанове й прэамбуле Статуту Эўрапейскай Рады Свабоды, дапамагаць Беларускаму й іншым паняволеным Масквою народам у іхным змаганьні за аднаўленьне й незалежнасьць іхных краінаў.

**Янка Кузьня**

# У БЕЛАРУСКІМ КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІМ КЛЮБЕ Ў СЫДНЭІ

Сёлета 24 жніўня адбыўся Агульны Гадавы Справаздачна-Перавыбарны Сход сяброў Беларускага Культурна-Грамадзкага Клюбу ў Сыднэі. Із справаздачы дасюлешняй управы Клюбу вынікала, што Клюбам былі зладжаныя сьвяткаваньні ўгодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Слуцкага Паўстаньня, стварэньня Беларускай Краёвай Абароны й 2-га Беларускага Кангрэсу, было зарганізаванае спатканьне Новага Году, Навагодні й Купальскі балі, былі прачытаныя дзьве лекцыі аб цяперашнім палажэньні на Беларусі й сусьветнай сытуацыі ды вялася карэспандэнцыя зь іншымі арганізацыямі й мясцовымі ўладамі.

Пасьля дыскусыі над справаздачамі была выбраная новая ўправа Клюбу, у якую ўвайшлі: старшыня К. Сіткоўскі й дырэктары: сп-ні О. Тамашэўская, Г. Ольрайт і сп-ры д-р Я. Малецкі, Я. Гавенчык, В. Л., І. Калпяка, А. Смаль, А. Корсун, М. Зуй, А. Бакуновіч, В. Плахоцкі й М. Лужынскі. У Рэвізыйную Камісію выбраныя: Л. Дзядуля, М. Мілеўскі й М. Ціхан. Старшынём Жаноцкага Камітэту Клюбу выбраная сп-ня О. Тамашэўская.

Ужо амаль ад самага заснаваньня Клюбу сярод ягоных сяброў існавалі дзьве думкі. Адны хацелі, каб Клюб быў, як і паказвае ягоны назоў, культурна-грамадзкай арганізацыяй, ролю якое ён фактычна й выконвае. Іншыя ўважалі, што гэта першы крок для стварэньня камэрцыйнага Клюбу, што прадугледжваў і статут, які даваў пэўныя асновы на адкрыцьцё такога прадпрыемства. Зьвязаныя з гэтым аднак вялікія грошы, якіх да гэтага часу Клюб не патрапіў сабраць, пачынае перахіляць вагу на першую думку. А дзеля гэтага Сход выбраў статутовую камісію, каб адпаведна перапрацавала статут, бо Клюб, як чыста грамадзкая арганізацыя, будзе мець магчымасьць дастаць дзяржаўную дапамогу на разбудову й пабольшаньне існуючай залі. Трэба думаць, што новая ўправа гэтую справу высьвятліць і палагодзіць.

**А. К-я**

# АБВЕСТКА

Распрадаю збор часапісаў і газэтаў эміграцыйнага й савецкага выданьня на беларускай і расейскай мове. Маю шмат часапісаў, іхныя камплеты, некаторыя некамплетныя, усіх разам 87 назоваў.

Цэны да ўзгадненьня, да чаго даходзяць кошты перасылкі. На адказ на ліст трэба далучыць два паштовыя купоны (International reply coupon).

Кошты перасылкі: да 500 грамаў — 65 П., да 1 клгр. — Ф. 1.08, 2 клгр. — Ф 1.51, 3 клгр. — Ф 2.27, 4 клгр. — Ф 3.02, 5 клгр. — Ф 3.78. Да кажнае пачкі даходзіць яшчэ 75 П за даручэньне (рэджыстэр). Звычайнай перасылкай на рызыка пакупніка.

Маю да збыцьця: часапіс „Полымя" ад 1956 г., часапіс „Маладосьць" ад 1960 г., „Камуніст Беларусі" 1956-1962 г., „Весьці Акадэміі Навук БССР — Сэрыя грамадзкіх навук" 1959-1970 гг., „Беларус на чужыне" — камплет, „На Шляху" — камплет, „Беларуская Моладзь" (выдаваная ў Францыі) — камплет, ,Наперад" (выдаваны ў Англіі-Бэльгіі) — камплет, „Аб'еднаньне" — камлет, 108 нумароў, „Сіла гневу" — камплет. Шмат іншых выданьняў, як беластоцкая „Ніва" ад пачатку ейнага выхаду ды календары выданьня гэтай газэты.

Лісты слаць на адрыс:

Mr. Aleksander Laszuk
97, Moore Park Road
London, S. W. 6 — 2DA England.

Таму што Друкарня ў Нью Ёрку ня мае знаку для абазначэньня ангельскага фунта, ужываецца ў гэтай абвестцы літара „Ф", а літара „П" абазначае пэнсы.

**Аляксандар Лашук**

# БРАСЛАЎШЧЫНА Й ЕЙНЫЯ ВАЗЁРЫ

Браслаў наш пры вазёрах
і вазёры ў Мёрах
а падобных вазёр
ты ня знойдзеш нідзе.

**Уладзімер Дубоўка**

Як у нязнаны сьвет вакно,
Ляжыць халоднае яно,
Жыцьцё сабою адбівае
І ўсё, што зьгінула даўно,
У цёмнай глыбіні хавае.

**„Возера" —**
**Максім Багдановіч**

На захадзе вялікай Полацкай нізіны, паміж Дзьвіной і ейным левым прытокам Дзісной, раськінуліся блакітныя Браслаўскія вазёры — паўночна-заходняя частка Беларускага паазер'я. Хоць у гэтай групе вазёраў і няма возера, роўнага Нарачы, але затое ў ёй іх значна больш, чымся на Нарачанска-Вялейскай нізіне, бо аж звыш 30-ці. Найвялікшыя з гэтых вазёраў — Дрысьвяты, Дрывяты, Снуды, Богінскае, Струста, Рычы або Рыча, Абстэрн, Укля, Волас, Войса, Несьпіш.

У сутоку рэкаў Дрысьвяты й Дзісны, на тракце з Паставаў у Браслаў ляжыць вялікая вёска Казяны, ад якой ён паварачвае на паўночны захад і йдзе ў гэтым кірунку раўнінай церазь вёску Ждэгелі да ціхога мястэчка, а паводля Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі, пасёлка (ад 1940 году) Відзы.

Відзы ўпяршыню ўспамінаюцца ў пісаных актах із сярэдзіны 15-га стагодзьдзя. Ад 1795 да 1839 г. яны былі павятовым горадам Віленскай губэрні. Аднак чужая расейская царская ўлада зусім ня лічылася з этнаграфічнымі граніцамі ўнутры г. зв. „Паўночна-Заходняга Краю", як яна называла ад 1842, а асабліва пасьля паўстаньня 1863 году, беларускія й лятувіскія землі захопленага Расеяй Вялікага Княства Літоўскага й пазьней улучыла беларускія Відзы ў этнічна лятувіскую Ковенскую губэрню. У 1909 годзе горад меў 6.433 жыхароў. Пасьля Рыскага трактату Відзы былі пад Польшчай у складзе Браслаўскага павету Віленскага ваяводзтва. Сяньня ў Відзах, якія цяпер належыць да Браслаўскага раёну Віцебскай вобласьці, налічваецца ўсяго крыху больш за дзьве тысячы жыхароў. Вялікі прыгожы мураваны з чырвонай цэглы касьцёл у гатычным стылі, які ўзвышаўся над мястэчкам, упрыгожваючы яго, расейска-савецкія ўлады нядаўна разбурылі. Аб гэтым паведаміла „Хроніка каталіцкае Царквы", якая выходзіць нелягальна ў Лятуве, у нумары 16-ым, які трапіў на Захад у ліпені мінулага году.

Блізка каля Відзаў, на захад ад мястэчка знаходзіцца вёска Відзы Лаўчынскія. У мінулым стагодзьдзі яна была, дзякуючы серкавым крыніцам у ёй, курортнай мясцовасьцяй. У Відзах Лаўчынскіх няраз бываў вялікі сын беларускай зямлі Адам Міцкевіч, праўдападобна тады, калі ён быў настаўнікам у Коўні.

Ад Відзаў тракт паварачвае на паўночны ўсход. Налева ад тракту, у вадлегласьці трох кілямэтраў на поўнач ад Відзаў, ляжыць возера Відзкае. Тракт далей праходзіць цераз вёску Падрукшу й за ёй перасякае раку Дрысьвяту, левы прыток Дзісны. Ад Падрукшы на ўсход рукой падаць да вёскі Богіна над даўгім возерам Богінскім, праз якое працякае Дрысьвята. На паўдарозе паміж Відзамі й Браславам, на ўсходнім беразе рэчкі Опса, ляжыць вёска Опса. Недалёка перад ёй тракт лагодна ўздымаецца на цэнтральную частку Браслаўскай грады й, перасекшы че, спускаецца на нізіну ў кірунку вялікага возера Дрывяты. Прыблізіўшыся да яго, ідзе ўздоўж ягонага заходняга берагу. Вачом адкрываецца від на велічны шэра-сіні водны прастор. Падчас ветру на возеры ўздымаюцца высокія хвалі й яно шуміць тады, як мора. Плошча возера Дрывяты — 36.1 квадратных кілямэтраў. Даўжыня — амаль 10 кілямэтраў, а найвялікшая ягоная шырыня — амаль 5 клм. Найвялікшая глыбіня возера — 12 мэтраў.

На возеры ёсьць чатыры абтокі. У яго ўпадаюць чатыры рэчкі: Усьвіца, Акунёўка, Рака й Золвіца, а выцякае адна: Друйка. У ім водзіцца каля 20-ці відаў рыбаў: плотка, лешч, шчупак, судак, лін, мянтуз, акунь, язь, верхаводка й іншыя; ёсьць вугор. З даўных часоў жыхары навакольных вёсак займаліся рыбалоўствам. Калі ўлетку 1935 году забаставалі нарачанскія рыбакі, пратэстуючы супраць забароны польскіх уладаў лавіць рыбу сваімі сеткамі, дык яны прылучыліся да забастоўкі.

Ад возера Дрывяты тракт бярэ кірунак на паўночны захад, у Дзьвінск. Ён там перасякае дарогу, якая йдзе на ўсход, у блізкі, маляўніча паложаны на высокім паўночным беразе возера, на пярэсмыку паміж ім і возерам Навятай, Браслаў.

Браслаў — адзін з найстарэйшых гарадоў Беларусі. Раскопкі паказалі, што ён быў заснаваны на пачатку 9-га стагодзьдзя на папялішчы латгальскага паселішча. Заснаваў яго полацкі князь Брачыслаў, сын Ізяслава, унук гордай Рагнеды, і назваў ад свайго імя Брачыслаўлем. Упяршыню ўспамінаецца ў хроніцы польскага гісторыка Мацея Стрыйкоўскага пад 1065-ым годам. У 11-12 стагодзьдзях быў пагранічным горадам Полацкага княства. На пачатку 14-га стагодзьдзя ў складзе гэтага княства ўвайшоў у Вялікае Княства Літоўскае. Пасьля першага падзелу Рэчыпаспалітай у 1772 годзе апыніўся ў складзе Расейскай імпэрыі. Пасьля Рыскага трактату быў пад Польшчай павятовым горадам Віленскага ваяводзтва. Сяньня Браслаў — цэнтр Браслаўскага раёну ў Віцебскай вобласьці. У ім налічваецца ўсяго толькі 4.600 жыхароў (у 1969 годзе). У цэнтры гораду знаходзіцца Замкавая гара. Зь ейнай вышыні вачом адкрываецца цудоўны краявід, які упрыгожваюць вазёры й лясы.

Ад Браслава адыходзяць дарогі ў трох кірунках. Адна йдзе на паўдзённы ўсход цераз Ахрэмаўцы на ўсходнім беразе возера Дрывяты, Замошша, Еды ў Шаркаўшчыну над ракой Дзісной. За Ахрэмаўцамі дарога праходзіць каля вёскі Бяльмонты на паўдзённа-ўсходнім беразе возера. Побач зь вёскай знаходзіцца стары вялікі парк рэгулярна-пэйзажнага стылю, закладзены ў мінулым стагодзьдзі, плошча якога займае звыш 65 гэктараў зямлі.

Мястэчка Шаркаўшчына было ўжо ведамае на пачатку 16-га стагодзьдзя як маёнтак Зяновічаў, які пазьней быў собскасьцяй князя Льва Сапегі, канцлера й гэтмана Вялікага Княства Літоўскага, рэдактара-выдаўца Літоўскага Статуту 1588 году.

Другая дарога ад Браслава йдзе на ўсход церазь вёску Ікязьнь над возерам Ікязьнь у Мёры. Праходзіць паміж вазёрамі Абстэрна й Набіста. Горад Мёры ляжыць над возерам Мёрскім. У пісьмовых крыніцах успамінаецца, пачаўшы ад 1633 году. Сяньня зьяўляецца цэнтрам Мёрскага раёну ў Віцебскай вобласьці.

Трэйцяя дарога йдзе ад Браслава на паўночны ўсход цераз Слабодку й Друйск у Друю. Вёска Слабодка ляжыць на ўсходнім беразе возера Поцех. Славіцца сваім касьцёлам зь вельмі высокай (40 мэтраў) прыгожай званіцай. Касьцёл гэты выразна відаць з адлеглай ад Слабодкі на 9 кілямэтраў Замкавай гары ў Браславе.

Друя ляжыць пры ўплыве ракі Друйкі ў Дзьвіну. Яна была ведамая ўжо ў 15-ым стагодзьдзі. Належала да князёў Сапегаў. І таму яна захоўвае яшчэ назоў Сапежын. Як шмат іншых беларускіх гарадоў і мястэчак на працягу сваёй шматпакутнай гісторыі, Друя цярпела ад чужынцаў. У 1515 годзе была спаленая маскоўскімі войскамі. Пасьля ўлучэньня ў 1795 годзе ў Расейскую імпэрыю была „заштатным" горадам Віленскай губэрні. 15-га чырвеня 1812 году, падчас паходу Наполеона на Маскву, каля Друі адбылася бітва паміж францускімі й расейскімі войскамі. Пасьля польска-бальшавіцкай вайны й Рыскага трактату Друя была пад Польшчай валасным мястэчкам Браслаўскага павету Віленскага ваяводзтва.

У Друі існаваў тады каталіцкі манастыр беларускіх айцоў Марыянаў, які быў соляй у воку польскіх уладаў. Ім не падабалася, што манахі вялі рэлігійную й асьветную дзейнасьць у беларускай мове. У сярэдзіне 30-ых гадоў віленская польская кансэрватыўная газэта „Слова" надрукавала пра іх пагромны артыкул-данос, варожага тону якога ня мог злагодзіць няшчыры, поўны гіпакрызыі сказ у ім: „Шануем нацыянальнасьць айцоў Марыянаў".

У 1939 годзе віленскі ваявода Людвік Бацянскі, ведамы вораг беларушчыны, высяліў беларускіх Марыянаў з Друі. Ясная рэч, што ён гэтага ня мог-бы зрабіць бяз згоды й апрабаты тагачаснага віленскага каталіцкага мітрапаліта Рамуальда Ялбжыкоўскага, заўзятага польскага шавіністага й заклятага ворага беларушчыны навет сярод духавенства. (Дарэчы прыгадаць цікавы й для гэнага часу вельмі характэрны факт: Выселеныя з Друі беларускія Марыяне, між імі нядаўна памерлы ў Лёндане ведамы пісьменьнік а. Язэп Гэрмановіч — Вінцук Адважны, разбрыліся былі па суседніх з Друяй вёсках, у якіх адпраўлялі Божыя Службы пабеларуску й тым самым моцна паглыблялі нацыянальную сьведамасьць і нянавісьць да польскага акупанта сярод пераважаючага ў гэтай частцы Беларусі каталіцкага жыхарства — Рэдакцыя).

Ад Друі йдзе чыгуначная лінія на поўдзень цераз Шаркаўшчыну у Варапаева, якая перасякае заходнюю частку Полацкай нізіны. Каля мястэчка, на другім, паўночным, баку Дзьвіны, уздоўж яе праходзіць старадаўны шлях з Рыгі цераз беларускія Дзьвінск і Краслаўку ў межах Латыскай ССР у Полацак, які йдзе далей на ўсход церазь Віцебск у адвечна беларускі Смаленск.

**Уладзімер Брылеўскі**

# ЗАКОНЧЫЎ ВЫШЭЙШУЮ АСЬВЕТУ

Алекс Харавец, сын ведамых Спадарства Галіны й Уладзімера Хараўцоў із Саўт Рывэру, Нью Джэрзі (унук капітана БКА Аляксандра Круцька, які даўгі час быў зьняволены ў савецкіх канцэнтрацыйных лягерах за сваю нацыянальную дзейнасьць на Беларусі ў часе Другой сусьветнай вайны ды з моцна падважаным здароўем памёр на Беларусі, якому не давялося пабачыць ані ўнукаў, ані сям'і). Алекс Харавец пасьпяхова закончыў Rutgers College, Rutgers the State University, атрымаўшы ступень Bachelor of Science in Mechanical Engineering.

Алексу Хараўцу зычым добрых посьпехаў у працы ў сваёй галіне й не занядбоўваць прыймаць удзелу ў беларускім нацыянальным жыцьці й дзейнасьці.

**С. Пчала**

# БЕЗГАСПАДАРЛІВАСЬЦЬ У ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРЦЫ БЕЛАРУСІ

Беларусь спрадвеку славілася харастром і багацьцем лясных скарбаў — сасновых бароў, сярэбраных бярэзьнікаў, прыгожых дуброваў, багатых сенажацяў, якія разам зь лясамі ахутвалі нязьлічаныя рэкі й вазёры, бароначы іх ад абмяленьня. Яшчэ ў палавіне мінулага стагодзьдзя амаль палавіну ўсяе тэрыторыі Беларусі пакрывалі дрымучыя лясы. Але ўжо на 1914 год лясістасьць яе зьнізілася да 28 працэнтаў. Як ведама, больш за 80 працэнтаў лясоў Беларусі належала прыватным собсьнікам, у бальшыні сваёй польскага ці расейскага паходжаньня. Зьнішчэньне лясоў Беларусі асабліва пачалося пасьля рэформы 1861 году, калі собсьнікі лясоў, чужынцы-абшарнікі, пазбаўленыя дармовай працы прыгоннага беларускага сялянства, шукалі сродкаў для сваіх распустаў, выразалі й прадавалі наш лес, стараючыся атрымаць зь яго як найбольш прыбытку. Прадажа лясоў пашыралася яшчэ больш у пачатку бягучага стагодзьдзя. Да Першай сусьветнай вайны на Беларусь прыпадала ажно 25 працэнтаў усяго экспарту лесу Расейскае імпэрыі! Гэткім парадкам, толькі ад 1882 да 1914 году ў беларускіх губэрнях было высячана каля аднаго мільёну гэктараў каштоўнага лесу.

Войны й акупацыі былі далейшымі прычынамі вынішчэньня гэтага народнага багацьця Беларусі. Вялікія прасторы лясоў былі высячаныя за гады Першае сусьветнае й грамадзянскае войнаў, бо лес, апрача таго, што акупанты вывозілі найбольш каштоўныя пароды, быў амаль што адзінай крыніцай будаўляных матарыялаў і паліва. У міжваенным пэрыядзе ў БССР бальшавікі накінуліся на беларускія лясы рабаўніцкім спосабам. У 20-ых гадох і першых дзьвюх пяцігодак яны бязьлітасна нішчылі лясныя масывы Беларусі. Эшалоны найбольш каштоўных гатункаў беларускай драўніны бесьперапынку вывозіліся замяжу з мэтаю атрыманьня патрэбнае валюты. Тое самае дакладна рабілі й Палякі ў заходняй частцы Беларусі. І толькі тады, калі было зьнішчана лясоў на 25 гадоў наперад, калі вялікія судаходныя рэкі Беларусі абмялелі, а рачулкі й вазёры павысыхалі, была затарможаная рабаўніцкая палітыка Масквы ў дачыненьні да лясных багацьцяў Беларусі. Па абодвых баках буйных рэкаў — Нёману, Дзьвіны, Дняпра, Сожа, Прыпяці — была ўстаноўленая на 20 кілямэтраў ахоўная паласа, у якой забаранялася высякаць лес.

Лясом Беларусі вялізарныя страты спрычыніла й Другая сусьветная вайна, калі было зьнішчана іх каля паўмільёну гэктараў. Пасьля вайны й у сувязі з працамі, накіраванымі на аднаўленьне лесу, лясістасьць Беларусі, калі верыць савецкім крыніцам, павысілася да 32,5 працэнту, пакрываючы амаль восем мільёнаў гэктараў. (У 1970 годзе пакрытая лесам прастора БССР раўнялася 6.754 тысячаў гэктараў. З гэтага Гомельская вобласьць мела 1,5 мільёнаў гэктараў лясоў, а Гарадзенская ўсяго толькі 700 тысячаў гэктараў. Больш за 80 працэнтаў ляснога масыву Рэспублікі складалі лясы дзяржаўнага фонду, рэшта належала калгасам).

У выніку інтэнсыўнай эксплятацыі цяпер у Беларусі лясы ўяўляюць сабою ў асноўным маладняк і сярэдняўзроставыя насаджэньні. Яны займаюць каля 80 працэнтаў лясных масываў. Сьпелых дрэвастояў, прыгодных для далейшай эксплятацыі, вельмі мала, іх трохі больш за 5 працэтаў. Як адзначае Маргайлік у зацемцы „Лес-Бацюхна", зьмешчанай у газэце „Літаратура і Мастацтва" 3-га чырвеня 1970 году: „І хоць лясная плошча ў БССР займае каля васьмі мільёнаў гэктараў, што, прыкладна, роўна тэрыторыям гэткіх дзяржаваў, як Данія й Бэльгія, разам узятыя, нельга забывацца аб зьбядненьні прыроднай зялёнай кладоўкі, аб скарачэньні памераў шмарагдавага мора, аб сумных песьнях белакрылых бяроз, соснаў, спалоханых дрыготкіх асінаў... Паступова мяняецца склад беларускага лесу. Зьнікаюць памалу клёны, ліпы, ясені, дзікія яблыні й грушы. Прыкметна скараціліся плошчы велічных дуброваў, вільготных ельнікаў, звонкіх сасновых бароў".

Бясспрэчна, аднэй з прычынаў гэтага зьбядненьня й зьмены складу беларускага лесу — гэта неахайнае стаўленьне да яго плюс марнатраўства й тыповая савецкая безгаспадарлівасьць. У народнай эканоміцы Беларусі лясы маглі-б быць паважнай пазыцыяй, калі-б іх эксплятаваць пагаспадарску. На жаль, яно так ня ёсьць, што й давяло да таго, што цяпер у Рэспубліку штогод завозіцца зь іншых раёнаў СССР каля двух мільёнаў кубамэтраў драўніны!

Як і ўва ўсіх галінах савецкае гаспадаркі, эксплятацыя лесу праводзіцца паводля плянаў. Але што варты плян, калі ён разьмінаецца з элемэнтарнымі вымогамі рацыянальнага гаспадараньня?! Ці трэба тады дзівіцца, што ў выніку такой неразумнай лясной гаспадаркі й пасьпешлівай мэльярацыі лясная прастора часта ператвараецца ў пясчаную пустыню? А разам з гэтым зьнікаюць каштоўныя зьвяры й птушкі, зьмяняецца таксама й клімат Рэспублікі: прыходзяць вятры й засухі; мялеюць рэкі, а некаторыя ўлетку навет перасыхаюць.

Але што найгоршае ўва ўсім гэтым, дык тое, што цэлыя масывы лясоў навет ня выкарыстоўваюцца належна! Як адзначаў Аляксандар Жалезка ў сваім артыкуле „Лес — наша краса й багацьце", надрукаваным у 3-ім нумары часапісу „Полымя" за 1971 год: „... вялізарным намаганьнем у аднаўленьні лесу й вядзеньні лясной гаспадаркі супярэчыць характар выкарыстоўваньня рэсурсаў лясной сыравіны ў Рэспубліцы. Да гэтага часу ў нас разьліковая гадавая высечка лесу па галоўным карыстаньні чамусьці выконваецца зь перавышэньнем, а ў той самы час нарыхтаваная драўніна ня ўся ідзе на прамысловую перапрацоўку". А каб ня быць галаслоўным, аўтар згадаў колькі лічбаў, якія паказалі, што беспасярэдня выкарыстоўваецца ў народнай гаспадарцы толькі 30-35 працэнтаў ліквіднага запасу лесу, прынятага лесанарыхтоўшчыкамі. Ён паказаў, якія страты мае народная гаспадарка Рэспублікі ад няпоўнага выкарыстаньня лясной сыравіны ў прамысловай перапрацоўцы, і адзначыў, што лясная прамысловасьць Беларусі да апошняга часу задавольвала спажываньне ў асноўным за кошт павялічэньня масы здабытай драўніны й піламатарыялаў ды што дасюль вельмі мала зьвярталася ўвагі на адставаньне вытворчасьці сартымэнтаў глыбокай апрацоўкі драўніны, а якраз гэтым і забясьпечваецца найбольш рацыянальнае выкарыстаньне лесасыравінных рэсурсаў. Адначасна Аляксандар Жалезка выказаў быў некалькі канкрэтных прапановаў што да эканоміі й рацыяналізацыі спажываньня драўніны, народнагаспадарскай эфэктыўнасьці выкарыстаньня лясных багацьцяў.

Але як выглядае з артыкулу Аўгена Дняпроўскага „Лясная ніва", зьмешчанага ў леташнім чырвенскім нумары часапісу „Полымя", прапановы Жалезкі ня былі ўзятыя пад увагу, бо аўтар цьвердзіць, што „На леспрамгасаўскай дзялянцы застаецца ўсё, акрамя вывезенай стваловай часьці дрэва. Астатняе леспрамгасаўцы зьнішчаюць на месцы хто як можа, часьцей за ўсё спальваюць. Балюча глядзець, як гарыць гэтае дабро. І, відаць, толькі, каб апраўдаць сябе, імя гэтаму дабру людзі промыслу выдумалі вунь якое незайздроснае: неліквід".

І, падобна як Аляксандар Жалезка восем год раней, Аўген Дняпроўскі таксама падае шмат прыкладаў марнатраўства й безгаспадарлівасьці й, адначасна, прапануе, як можна пагаспадарску абыходзіцца з тэй драўнінай, якая нарыхтоўваецца й перапрацоўваецца прадпрыемствам. Мала гэтага. Аўтар ідзе яшчэ далей; ён шукае таксама прычыны падобнага стану ў лясной гаспадарцы Рэспублікі й сярод іх згадвае, на колькі гэта можна згадаць у савецкай прэсе, пару прычынаў, а менавіта: існаваньне ведамасных бар'ераў, якія адмоўна ўплываюць на вядзеньне лясной справы, і поўную цэнтралізацыю, якая існуе ў гэтай галіне. Гаворачы пра гэтую апошнюю, ён адзначае: „Ад Карпат да Камчаткі ... Ня можа быць адзінай, аднолькава прыдатнай для розных зонаў краіны структуры лясной прамысловасьці й лясной гаспадаркі. Для кожнай зоны павінен быць распрацаваны свой аптымальны варыянт". Але існуе яшчэ адна галоўная прычына ўсяго гэтага — гэта сутнасьць самой бяздарнай каляніяльнай савецкай сыстэмы, якая эксплятуе паняволеныя народы, у тым ліку й нашую Беларусь. Пра гэта, аднак, гаварыць у Савецкім Саюзе строга забаронена.

**Д-р Віктар Сенкевіч**

**Рэфэрат зь гісторыі Беларусі на Калюмбійскім унівэрсытэце** прачытаў 20 лютага сёлета навуковецгосьць з Парыжу Ніколя Вэрт. Рэфэрат на тэму „Сацыял-дэмакраты, нацыяналізм і рэвалюцыя на Беларусі, 1900-1917 гг.", быў прачытаны ў сэрыі дакладаў унівэрсытэцкага сэмінару пра камунізм.

**У кнізе „Этнічныя спадчыны й далягляды: рост сьведамасьці",** якую выдаў сёлета Камітэт да этнічных справаў Балтыморскае акругі, зьмешчаныя два разьдзелы, адзін д-ра Вітаўта Кіпеля, а другі Зоры Кіпель, пра шляхі й спосабы вывучэньня нацыянальна-культурнае спадчыны ў Амэрыцы, у тым ліку й спадчыны беларускае. Беларускую групу ў Камітэце этнічных справаў Балтыморскае акругі (каўнты) прадстаўляе сп. Васіль Мельяновіч.

# ФОНД ВЫДАНЬНЯ ЮБІЛЕЙНАЙ КНІГІ ЯНКІ КУПАЛЫ

На конта Фонду Юбілейнай Кнігі Янкі Купалы ў верасьні 1980 году былі атрыманыя ад наступных ахвярадаўцаў сумы: Беларуска-Амэрыканскага Жаноцкага Згуртаваньня ў Кліўленьдзе: $100.00, Сп-ва Ванды й Міхася Махначоў: $ 25.00; **усяго разам у верасьні 1980 г. — $ 125.00; разам з папярэднімі й банкавымі працэнтамі $ 4,710.36.**

Усім Паважаным Ахвярадаўцам нашае шчырае беларускае дзякуй!

**Рэдакцыйная Калегія Газэты „Беларус"**

# ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

28 верасьня сёлета Парахвіяльная Рада Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўная Царквы пры Атлянтык авэню 401 у Брукліне адзначала Дзень свайго патрона Сьв. Кірылы Тураўскага, а адначасна й Крыжапаклонную Нядзелю. У царкве зьбраліся мясцовыя прыхаджане, госьці із суседніх штатаў ды госьці зь іншых краінаў, якія прабывалі ў гэты час у Нью Ёрку ці блізка ад яго. Служыў наш настаяцель а. Расьціслаў Войтанка, а прыслужваў ягоны сынок.

Шчыра маліліся прыхаджане, бо нядобры час перажываем і бясьсільныя адхіліць тую хмару, што зацягнула неба. Усе Беларусы ведаюць, што вядзецца судовая справа, гэта даўно не сакрэт. Судовая справа прыхаджанаў ды сьвятароў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы супраць прыхаджанаў ды сьвятароў тае-ж Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы — сумная справа, якая нас дыскрымінуе.

Відавочна ня шукалі іншага выхаду для разьвязаньня паўсталае, як выглядала, невялікае праблемы, ня шукалі наважана й пільна, каб гэтую разьвязку знайсьці. Вось такія сумныя думкі не давалі спакою, таўкліся ў галаве й навет у часе Багаслужбы ў мяне ды хіба й у шмат каго. Маліліся, бо толькі гэта нам засталося, прасілі ў Бога дапамогі, нізка схіляючы перад Сьвятым Крыжам галовы.

„Крэсту Тваяму пакланяемся, Уладыка!

І Сьвятое Ўваскрасеньне Твае славім" — паўтараў царкоўны хор ды паўтаралі й мы, хай сабе й у думках. Крыж і Ўваскрасеньне, дык гэта-ж надзея, пасьля крыжовае пакуты прыйшло ўваскрасеньне — радасьць. Не, мы ня маем права траціць надзеі, можа й у нашай грамадзе пакута зьмеціцца ў радасьць. А а. Расьціслаў тое самае нам паўтарыў у сваёй пропаведзі: „Трэба вам усім падумаць ды прыслухацца, што вашае сэрца ды вашыя думкі вам гавораць, і трэба йсьці за гэтым голасам, і толькі тады мы пераможам зло".

Дык ёсьць выхад у нашай бядзе, такі просты: рабіць дабро, дабром адказваць на зло, умець дараваць, усё гэта ведамае нам у тэорыі даўно. Прыйшоў час прымяніць ведамае ў практыцы: любіць свайго бліжняга Беларуса, як самога сябе. Вось тады й ня будзе месца на сваркі й лёгка адхіліцца гэная судовая справа. Толькі ад нас залежыць, каб працягнулі мы рукі да згоды.

Зьявіліся пазьней новыя госьці, калі ўжо былі ў залі пад царквой: а. Архімандрыт Язэп з другой парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага, што пад грэцкай юрысдыкцыяй, з двума прадстаўнікамі. Старшыня Царкоўнай Рады Аляксандар Міцкевіч прывітаў усіх гасьцей: Архімандрыта Язэпа Строка ды прыбылых зь ім двух прадстаўнікоў ягонае парахвіі сп. сп. Кастуся Мярляка ды Пятра Мельяновіча. Прывітаў прадстаўнікоў парахвіі з Гайлэнд Парку: сп. сп Дубягу, Аляксандра Сільвановіча й Васіля Русака, а таксама чатырох замежных гасьцей: грамадзкага дзеяча Аляксандра Лашука зь Лёндану (Ангельшчына), грамадзкага дзеяча зь Нямеччыны Ўладзімера Бортніка, сп. Цітовіча з Адэляйды (Аўстралія) ды маладога Беларуса зь Лёндану Віктара Тура.

Другім забраў голас сп. Ул. Русак ад імя Япархіяльнае Рады БАПЦарквы. Ён таксама прывітаў а. Архімандрыта Язэпа ды іншых гасьцей. У канцы запрапанаваў прапяяць а. Архімандрыту Язэпу „Шмат год!", што й было прапяяна.

З прамовай выступіў Архімандрыт Язэп.

Паважаныя чытачы! Ніжэй зьмяшчаюцца, хоць часам і ня зусім зьвязаныя між сабой сказы ды зь некаторымі пропускамі. Прабачце за гэта. Дзьве прамовы запісаныя мною ў посьпеху на тоненькай папяровай сарвэтцы. Усё-ж удалося наступнае з тае сарвэткі адчытаць. Тэкст зьмяшчаецца без паправак ці зьменаў — аўтэнтычны.

З прамовы Архімандрыта Язэпа Строка:

„. . . Бог вялеў нам быць разам, Браты й Сёстры, мае зямлякі. Чаму мы ня маем права быць разам, і маліцца разам? Мы-ж суродзічы! Сьветлая сіла пераможа, хоць злая сіла й ня пускае, але мы ўсё-ж будзем разам.

Я ў 1968 годзе прыехаў у Амэрыку. Пісаў да мяне а. Мікалай Лапіцкі, каб я ачоліў праваслаўную царкву. Я ехаў да Беларусаў упэўнены, што Беларусы на чужыне адзін народ. Прыехаў у Саўт Рывэр і пытаю: А дзе-ж мой школьны калега а. Андрэй Крыт. Сказалі мне, што пазьней раскажуць ўсё . . . і пра раскол. Сяньня мы ўсе за тое, каб быць у ваднэй сям'і з Вамі . . . Такі стан рэчаў мае скончыцца. Айцец Коўш склікае сход у сыботу, на якім будзе парушаная гэтая справа й іншыя . . . Я там буду гаварыць тое самае, што тут гавару, што мы ўсе Беларусы ды што мы й вы хочам быць разам, хочам злучыцца, і ніхто ня можа нам супярэчыць . . . Я з Вамі — я для Вас свой!"

Бурна спаткала гэтыя словы заля. Энтузіязм выліўся навонкі. Словы нашага гасьця былі часткава неспадзеўкай, але патрэбнай нам у гэты час духовай падтрымкай, за што мы яму застанемся ўдзячнымі.

Пасьля Архімандрыта Язэпа выступіў з прамовай сп. Кастусь Мярляк (узноў словы ягонае прамовы прыводзяцца літаральна — З. Ст.):

„Беларускі народ няраз быў паняволены чужынцамі, мы шмат цярпелі, але не загінулі . . . Рабілі й мы памылкі. ., каб толькі яны ня выходзілі за рамкі нацыянальных патрэбаў. Мы павінны будаваць нашае нацыянальнае жыцьцё так, як вымагаюць нашыя нацыянальныя патрэбы. Мы не хацелі пакідаць Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, але так сталася. Я ніколі не ўяўляў сабе, каб сьведамы Беларус для свае . . . быў супраць. Я быў супраць і выступаў супраць . . . І гэта ня добра. Нашае аб'яднаньне — гэта сіла, патрэбная, каб абараніць нашую нацыянальную ідэю, каб мы змаглі яе перадаць дзецям. Гэта зрабіць будзе нам лягчэй разам — два прыходы ў Нью Ёрку ня змогуць існаваць доўга, яны невялікія й цэрквы нашыя пусьцеюць. Адзін прыход працягне нашае беларускае існаваньне на 25 ці больш гадоў. Я дажываю, мае сыны жывуць у Амэрыцы, яны ня хочуць прысьвячаць час на беларускае слова, але я хачу. ., каб баранілі яны беларускую справу, хай сабе й у ангельскай мове.

Калі Вы — усе тут прысутныя думаеце нацыянальнымі катэгорыямі, то ў гэтым кірунку трэба працаваць нам усім. ., трэба нам зыбрацца й пагаварыць. Дзеля гэтага я сяньня тут з вамі. Я не хачу ліквідаваць царквы: ні аднэй ці другой, бо я-ж іх будаваў зь іншымі разам, але няма іншага выхаду, каб утрымаць цяглась нашага рэлігійнага й грамадзкага жыцьця як мага на даўжэй".

Ці трэба яшчэ пісаць, як радасна віталі прысутныя такую прапанову? Я падзівіла здольнасьць і наважанасьць прамоўцы праявіць гэтую ініцыятыву. Каб-жа Ўсявышні даў сілы правесьці яе ў згодзе ў жыцьцё.

Пазьней у часе бяседы я неяк прыпомніла, што нашаму Айцу Расьціславу мы нейкім чынам маем падзякаваць за словы-параду ў ягонай пропаведзі, як выправіць прыгнятаючую нас сытуацыю ў нашым царкоўным жыцьці. Я выступіла, каб злажыць яму падзяку публічна за добрую параду ды запрапанавала засьпяваць яму „Многая лета". Айцец Архімандрыт Строк пакіраваў гэтым сьпевам. З уздымам прагучэла мнагалецьце, а абодвы сьвятары злучыліся ў хрысьціянскім абдымку.

Апошнім прамоўцам быў старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Гаварыў ён, як заўсёды, прадумана, эфэктоўна, толькі не змагла я ягонае прамовы запісаць дакладна, бо сьпісалася мая папяровая сарвэтка. Дык коратка з памяці:

Напачатку старшыня прывітаў гасьцей із суседняе парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага: а. Архімандрыта Язэпа Строка ды прадстаўнікоў ягонай парахвіі, прадстаўнікоў парахвіі з Гайлэнд Парку ды гасьцей зь іншых краёў. Падчыркнуў той факт: у гісторыі аўтакефальнай царквы страчаную часова аўтакефалію заўсёды аднаўляў беларускі народ, бо дух ейны жыў праз усе стагодзьдзі ў народзе, у часе славы ейнае й упадку.

Ён пры нагодзе злажыў падзяку а. Аляксандру з Гайлэнд Парку за апеку ў часе цяжкой хваробы нядаўна памерлага сьвятой памяці Флярыяна Каранеўскага. Асаблівую-ж падзяку злажыў пачынальнікам у працы над аб'яднаньнем дзьвюх праваслаўных парахвіяў у Нью Ёрку.

Трэба было быць там прысутнымі, каб перажыць тую радасьць ды атрымаць надзею на будучыню. Дзень той зрабіў нас лепшымі хрысьціянамі ды лепшымі людзьмі. Мы ўсе ўдзячныя ўсім тым, што прыйшлі да нас з добрай інтэнцыяй ды з адкрытым сэрцам. Гэтым разам хлеб штадзённы ня быў галоўным аб'ектам нашае ўвагі, бо атрымалі, прагнучыя яе, духовую страву: „Ня хлебам адзіным жыве чалавек".

Ды хоць пры канцы, але найглыбейшая яшчэ раз падзяка нашаму пастыру Айцу Д-ру Расьціславу Войтанку, што даў нам гэтую нагоду так хораша правесьці той незабыўны дзень, за тое што не згадзіўся на намовы, каб ня было ў гэты дзень Багаслужбы ў нашай царкве.

**Зінаіда Станкевіч**

# ЯК ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

Галоўнай прычынай нашага (майго й мае спадарожніцы Раісы) падарожжа ў Лёс Анджэлес (Каліфорнія) было — прыняць удзел у радаснай сямейнай падзеі Спадарства Юзі й Часлава Найдзюкоў — у шлюбе ды вясельлі іхнае дачкі Ядвігі.

Спадарства Найдзюкі даўнія прыяцелі нашае сям'і. Доўгія гады Юзя й я супрацоўнічалі, дапамагаючы пры выдаваньні беларускай газэты ў Мюнхэне „Бацькаўшчыны". А сп. Часлава памятаем із студэнцкіх гадоў у Вільні. Дык 8 жніўня сёлета й „паляцелі" ў Каліфорнію.

Шлюб маладых: Ядвігі Найдзюк і Гая Генэв'е Француза адбыўся 9 жніўня ў касьцеле Сьв. Францішка з Асыжу, парахвіянамі якога зьяўляецца сям'я Найдзюкоў. Даваў шлюб настаяцель таго касьцёлу пастар Лаўрэнс Карузо.

Шлюбная цырымонія была ўстаноўленая ў рамкі імшы ў сярэдзіну. Даўгая й цікавая была тая літургія із шлюбам: уключала яна й сьв. прычасьце, пропаведзі, чытаньне ўрыўкаў із Сьвятога Пісьма, прытаранаваных да нагоды (цытаты падабрала сама маладая), якія чыталі ейныя сяброўкі: Дора Гарэр — Мэксыканка ды Шу Гэнзьлі — Амэрыканка з Францыі (яна прыехала разам зь сям'ей маладога). Прачытаныя ўрыўкі гэта: „Любіць Бога" і „Любіць адзін другога ўзаемна". Была й цікавая сымбалічная цырымонія, із запаленымі сьвечкамі. У некаторай адлегласьці на падстаўках гарэлі дзьве сьвечкі: маладой і маладога, якія пазьней былі ў адмысловай цырымоніі злучаныя ў вадну. У касьцеле ўвесь час прыслужваў Віктар Найдзюк — брацік Ядзі.

Вясельле адбылося ў сумежным парахвіяльным будынку. Гасьцей было больш за дзьве сотні. Ежа ў васноўным была прыгатаваная беларускімі жанчынамі хатнім спосабам прыяцелькамі Юзі дый сама яна напрацавалася пры гэтым даволі. Мне давялося бачыць яе ў часе працы й як сьвяціўся радасьцяй ейны твар, калі ўвіхалася каля тае кулінарнае справы.

У выніку падрыхтаваная пры ўдзеле ўсей сям'і Найдзюкоў беларуская тушаная капуста з каўбасой пабіла ўсе рэкорды. Не дараўнялі ёй ні печанае мяса індыка, ні ростбіф, ані адмысловая смакавітая грэцкая пікантная запяканка „Мусака" прыгатаваная Грэкам Крыстафам Лыгосам, мужам Ноны з дому Міленьцевай, якая малой дзяўчынкай з бацькамі ў той далёкі час жыла з намі разам у ДП-лягеры ў Рэгензбургу ў Нямеччыне.

Але адарвемся ад ежы, на якую мы толькі кінулі першы позірк.

У парозе залі таўкліся людзі: зьявіліся маладыя. Маці маладой спаткала іх з караваем, соляй і віном. Ёсьць, аказваецца, у Лёс Анджэлесе каравайніцы, што выпяклі той каравай — гэта сп-ня Валя Стус (сястра ведамае й у Нью Ёрку Кляўдыі Шэлест), што яго выпякла ды ўпрыгожыла шышкамі. Людзі сыпалі зерне (рыж) на маладых, каб багатымі ды шчасьлівымі былі. За маладымі ішлі чатыры пары дружак з дружбантамі.

Заселі за сталы, дзе хто хацеў, нам давялося сесьці пасуседзку насупраць незнаёмых людзей, была нагода пазнаёміцца аж з трыма пакаленьнямі сям'і Канановічаў ды бабкі Ніны Кэнт — піяністкі.

Палілося шампанскае, пілі, колькі хто хацеў — былі гутаркі, тосты, знаёмствы. Побач з намі сядзелі добрыя знаёмыя: зьлева Данчык Андрусышын, справа сп. Аўген Кажан з жонкай.

На сцэне зьявіўся майстра цырымоніі: сп. Сэм Вуіч — Сэрб (жонка ягоная Вера Блоцкая — Беларуска, жыла раней у Дэтройце, а яшчэ раней была вучаніцай Беларускае Гімназіі ў ДП-лягеры ў Міхэльсдорфе ў Нямеччыне).

Ён адчыніў вясельную праграму ды яе й вёў. Прадставіў сем'і маладажонаў пэрсанальна. Сям'я маладога складалася з шасьцёх асобаў: бацькоў, двух сыноў і дзьвюх дачок, а зь імі прыехалі з Францыі яшчэ тры асобы прыяцеляў. Ён падчыркнуў, што характар гэтага вясельля інтэрнацыянальны, ды сказаў ён праўду, бо той інтэрнацыянальны характар дамінаваў.

Нам зь Нью Ёрку ня так лёгка было дапасавацца й зразумець псыхалёгію людзей, якія з аднолькавым захапленьнем успрыймалі ўсе даслоўна танцы й песьні добрае аркестры (удзельнікі якой — гэта Жыдкі, уцякінеры із Савецкага Саюзу). Яны хоць і добрыя вакалістыя, аднак з музыкі ды песьняў ніяк ня вызбыліся дамінацыі расейшчыны.

Публіка скакала ўсе танцы ў такт музыкі, як выходзіла: грэцкія, польскія, украінскія, расейскія, беларускія, мэксыканскія й іншыя, уключаючы жыдоўскія, усіх і прыпомніць цяжка. А ўсё-ж цікава было прыглядзіцца да некалькіх першых параў, якія прафэсыянальна выконвалі гэтыя нацыянальныя танцы. Гэтак і беларускія, як „Крыжачок". Першыя дзьве пары танцавалі запраўдны „Крыжачок" зь фігурамі. Гэта: сп. Часлаў Найдзюк із сп-няй Кацяй Віціцкай ды другая пара Валя Стус зь Вінцуком Клокам — яны ўсе сябры даўней існуючай беларускай танцавальнай групы, а „Бульбу" скакалі масава, як польку.

Відаць, такая група людзей — мешаніна розных нацыянальнасьцяў, тут у Каліфорніі штодзённая зьява.

Прыйшоў час і на выступленьне Данчыка Андрусышына, хоць відавочна й спозьнена. Шампанскае дзейнічала, дык увага расьцярушвалася. Аднак выступленьне было вялікім сукцэсам. Замерла заля, слухалі, бо было што слухаць.

У рэпэртуары ягоным былі наступныя песьні: І. „Каханьне — гэта веліч для паэты" ў францускай мове з увагі на сям'ю маладога. 2. „Дачушка мая" ў беларускай мове (бацька Часлаў танцаваў пад мэлёдыю песьні з дачкой Ядзяй солё). Расчуленыя жанчыны плакалі ад сэнтымэнтальных словаў песьні. 3-яй была „Адыдзі хутчэй" на францускай мове, ды 4-ая народная „Хлопец пашаньку пахае". Асабліва апошняя песьня была ўспрынятая энтузіястычна. Воплескі былі доўгія й моцныя, але на бурную авацыю не здабыліся, як гэта мы робім у Нью Ёрку. Не прасілі выступіць на біс — празь сьціпласьць: навет на сваім беларускім вясельлі адчувалі сябе меншыняй. Але гэта нічога. Сытуацыя мяшаных сужэнстваў іх да такога стаўленьня прымушала.

Якія мы шчасьлівыя ў гэтым выпадку, у Нью Ёрку, Кліўленьдзе, Чыкага, Нью Джэрзі, у Канадзе, Аўстраліі, ды Ангельшчыне, дзе жывём большымі нацыяльнымі групамі, дзе маем свае цэрквы, свае аркестры, свае хоры, танцавальныя групы, свае школкі для дзяцей, сваю прэсу. А каб толькі хапіла ў нас добрае волі, мы-б, здаецца, былі найшчасьлівейшай нацыянальнай групай на эміграцыі. Каб-жа Бог нам даў гэтую добрую волю да ахвярнае працы для свайго грамадзтва.

Спозьнена друкуецца гэты артыкул: я ўсё чакала на фатаграфію маладых ды так і не дачакалася да сяньня!

**Зінаіда Станкевіч**

# ПАСЬЛЯ АРЫШТУ МУЖА...

У артыкуле „Пяцьдзесят год таму . . ." ў сёлетнім чырвенскім 278-ым нумары „Беларуса" я падзялілася ўспамінамі пра пачаткі арыштаў „нацдэмаў" у 1930 годзе. А цяпер у наступным маім артыкуле „Пасьля арышту мужа . . ." падаю крыху болей дэталяў пра далейшае жыцьцё іхных жонак і сем'яў, што засталіся „на волі". Прычым, хоць успамінаю я й пра сябе толькі, аднак жыцьцё падобнае было й усіх сем'яў арыштаваных. Што й казаць, жыцьцё было нялёгкае . . .

Вось прыпомнілася адна дэталь. За дзесяць месяцаў, пакуль арыштаваныя сядзелі ў Менску, мне было дазволена ў канцы сакавіка 1931 году адно спатканьне з мужам. Цяжка навет і цяпер успамінаць. Спачатку было даўгое чаканьне на вуліцы, потым уваход у памешканьне, кругом краты, вартавыя, суворасьць. Я сама із сьлязамі на вачох цягну за руку трохгадовага сына, бо дазволілі нам абодвым угледзіцца з арыштаваным. Тады ў спэцыяльным пакоі — спатканьне ў прысутнасьці сьледчага. Сын усьцешыўся, калі ўбачыў тату, а нам з мужам стала жудка. Аб чым гаварыць? Што больш важнае? Муж пытаецца, як я даю сабе рады, ці маю працу? Я-ж празь сьлёзы пытаюся: а што ў яго, як доўга будзе гэта цягнуцца? Прыцішаючы голас, муж папытаўся пра нейкае прозьвішча. Я навет і не разабрала, пра што муж пытаў, аднак сьледчы акрыкнуў, каб не шапталіся.

Паўгадзіны праляцела маланкава й сьледчы заявіў: „Свидание окончено". Мужа адразу вывелі, а нас павялі назад. У мяне ад плачу займала дух, але я старалася трымацца, мусіла перад сынам. Бо што я магла сказаць трохгадоваму дзіцяці, калі ён пры разьвітаньні з татам, захлёбваючыся ад сьлёзаў, запытаўся, чаму тата ня йдзе з намі дахаты.

Калі мы выйшлі на вуліцу, то там было некалькі чалавек, і мне нехта шапнуў, што сяньня арыштаваных будуць весьці назад у турму. І хоць ужо пачынала цямнець, я пастанавіла пачакаць: а ну-ж яшчэ раз удасца ўгледзецца. І ўзапраўды, неўзабаве выйшла колькі канваіраў, уськінулі вінтоўкі напагатоў, а за імі выйшла некалькі арыштаваных, а сярод іх і Яўхім. Канваіры аклікнулі людзей, каб ня перагаварваліся й не падыходзілі блізка, аднак не праганялі. І гэтак я з сынам позіркам выйшла за арыштаванымі. Іх накіравалі ў турму, якая знаходзілася на адлегласьці трох-чатырох кварталаў. І гэта было нашае апошняе спатканьне на два з палавінаю гады, пакуль ня сустрэліся ў высылцы.

Неўзабаве, як я ўжо казала раней, усіх „нацдэмаў" зь Менскае турмы перавезьлі ў Маскву ў Бутырскую турму. Калі яны яшчэ сядзелі ў Менскай турме, хоць і малюсенькая, але дзесьці ў сярэдзіне тлела надзея —а можа выпусьцяць, а зь пераводам іх у Бутыркі гэтая надзея поўнасьцяй прапала. Заставалася толькі чакаць прысуду ды неяк уладкоўваць сваё жыцьцё. Праўда, раз, а то й два ў тыдзень, калі час дазваляў, заходзіла я ў ГПУ, ану-ж нешта даведаюся! Аднак ішлі месяцы, а канкрэтнага нічога ня было чуваць.

Летам з працай і зусім было цяжка, бо ня было дзе выкладаць, дык заставаліся толькі пераклады, ды такая-сякая выпадковая праца: то ў канцылярыі, то недзе карэкта. Хаджэньне па горадзе ды шуканьне падработку ўскладнялася й тым, што сям-там ужо пачыналі пытацца: „А чаму вы ня маеце сталае працы?" Адказваць праўду на гэткае пытаньне — азначала й далей ня мець працы. І тым ня менш, мы ніколі не хаваліся й казалі праўду. Мушу сказаць, што шмат у якіх установах ставіліся й сымпатычна. Гэтак, як я ўжо ўспамінала раней, заўсёды даваў падрабіць у выдавецтве Міхась Лынькоў. Даваў часта працу на дом і Янка Маўр. Шмат атрымоўвалі падработкаў жонкі „нацдэмаў" і ў Наркамземе, і ў пісьменьніцкіх арганізацыях.

Жыцьцё ўскладнялася вельмі й тым, што было цяжка „даставаць" прадукты. І вось у дапамогу рынку прыходзіў „Торгсин" (расейскі ска-

(Заканчэньне на 6-ай бач.)

